# НАША НІВА

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі. №22 (179) 29 ТРАЎНЯ 2000 г.




Фота Дзяніса Раманюка

# КАМПАНІЯ З ПАШТАМТУ



Фота IREX-ProMedia

***Яны зьбіраліся ў менскім дворыку за Галоўпаштамтам і крамай «Глёбус», гулялі ў настольны тэніс, сьпявалі пад гітару і гаварылі пра жыцьцё. «Кампанія з паштамту» — называлі іх. Яны былі зусім маладыя. Сем чалавек 30 траўня 1999 г. пайшлі на «сьвята», арганізаванае на Машэрава. Цяпер у пераходзе на Нямізе можна адшукаць леташні надпіс: «Насьця, Паша, Чык, Малы, мы вас любім і будзем помніць заўжды». Каля слова «Малы» напісана: «Ён жывы!» Сапраўды, ён жывы. А ў першыя дні пасьля трагедыі рабілі шмат памылковых высноваў і надпісаў на сьценах пераходу. 30 траўня 1999 году кампанія з паштамту згубіла трох сваіх сяброў.***

## Расказвае Натальля Мядзель (маці Паўла Мядзеля, нар. 1982):

«Я дакладна ведала чамусьці, што ў мяне народзіцца хлопчык. Я вельмі хацела сына. У мяне два імені было на выбар: альбо Паўлік, альбо Стасік. Назвала Паўлікам. Зь ягоным бацькам мы разьвяліся, калі сыну быў год і сем месяцаў. Паўлік быў вельмі самастойны. Ужо зь дзесяці гадоў мог прыгатаваць сабе бульбу, яечню. А аднойчы мой сын мяне проста ўразіў. У той дзень я затрымалася ў сябровак. І вось прыяжджаю дамоў, а на стале запіска: «Мама, пяльмені ў халадзільніку». Я яшчэ зьдзівілася: якія пяльмені, чаму нечыя пяльмені ў нашай лядоўні? Аказалася: сын сам узяў фарш, муку, замясіў цеста... і наляпіў пяльменяў. Наглядзеўся, як я рабіла гэта. Паўліку тады было трынаццаць. Паўлік не пасьпеў стаць дарослым. Ён яшчэ нікім не хацеў быць, ня думаў пра гэта, не зразумеў, што яму ў жыцьці патрэбна. Я магла сказаць яму: «Ты прагуляў урокі? Катаўся на аўтобусе?! Які жах!» Але сапраўдны жах здарыўся 30 траўня. Кажуць: нашы дзеці загінулі ні за што, няхай жа яны трапяць у рай... А вы верыце, што ёсьць гэты рай? Ну, добра, можа ёсьць нешта такое. Уявім, што ў гэтым сьвеце мы толькі госьці. Уяўляем. Але чаму Бог так робіць: камусьці дае ўсё ў гэтым сьвеце, усё добрае, а камусьці нічога не дае? Ну, чаму? Вось, вы таксама ня ведаеце... І ніхто пра гэта дакладна ня ведае. Хто зь людзей быў там — у раі ці ў пекле. Няма такіх. Ніводнага. Ёсьць там інакшае жыцьцё — сходзі, пабач, а няма — што і казаць, ня ведаючы? Але тое, як ён паміраў, як задыхаўся, як яму было балюча, як не ставала паветра — больш за ўсё мяне вось гэтае мучыць і забівае. Калі несьлі яго, гэтая музыка за труною — яна мяне таксама забівала. Але тады я яшчэ не разумела. Я не разумела, што адбываецца. Што вось Паўлік — ён памёр, яго няма... Я гэта бачыла, але не ўсьведамляла. Я даведалася пра ўсё, што адбылося, толькі ў панядзелак пасьля работы. Іду дамоў. І бачу, стаяць: муж былы з жонкай, сястра мужа былога са сваім мужам, сяброўкі мае. Я адразу не зразумела: чаму яны ўсе глядзяць так на мяне... І я не адразу даведалася, што Паўлік мой загінуў. Мне сказалі: «Ён у больніцы». Так асьцярожна-асьцярожна. А я: «Хай абы-дзе ня швэндаецца!» Я адразу падумала: улез у якую бойку, і яго нехта пабіў. Я ж не магла сабе ўявіць, што «ён у больніцы» значыла «ён ужо ў моргу». Я памятаю, як 30 траўня Паўлік сыходзіў з дому. Напярэдадні мы набылі яму новае адзеньне, ён апрануўся ўва ўсё новае, быў такі прыгожы, у гуморы. Там жа была ў той дзень Паўлікава кампанія. Была і дзяўчына, якая Паўліку падабалася — Насьця. З кампаніі загінулі Паўлік, Насьця і Чык. Паўлік сярод іх наймалодшы.

## Расказвае Ірына Карняенкава (маці Насьці Карняенкавай, нар. 1981):

«Мае дзеці нарадзіліся на Далёкім Усходзе, у горадзе Свабодным Амурскай вобласьці Расеі. Невялікі гарадок, зь цяжкімі зімамі. А Насьця нарадзілася зімою, 14 лютага, у дзень Сьвятога Валянціна. Я так на помніку і напісала. Сказалі: «Дзіўны надпіс». Я ня ведаю... Напісаць на помніку: «Мы смуткуем, наша страта невыносная?» Для кожнай сям'і сьмерць дзіцяці — невыносная страта. Я напісала: «Нарадзілася ў дзень Сьвятога Валянціна, загінула ў дзень Сьвятой Тройцы». Як быццам бы нейкі знак звыш быў дадзены. Мне цяжка казаць пра Насьцю. Яна была быццам бы непрыкметным чалавекам, але вельмі неабходным. Цяпер я чакаю, каб хутчэй вярнуўся з войска мой сын. Насьця была спакойным дзіцём у клясе. У яе не было праблемаў з паводзінамі, таму яна ня мела канфліктаў у школе. І працаваць пайшла з задавальненьнем. Я думала, ёй цяжка будзе працаваць зь людзьмі (яна пайшла прадавачкай у краму). Але ж на працы ёй былі задаволеныя. Я ведаю: яна ніколі ня будзе грубіць, хаміць. Можа быць, ёй не спадабаецца ў трэці, у пяты раз нейкі тавар паказваць — усё адно пакажа, ціха, мірна. Наша сям'я доўгія гады зьвязаная з опэрным тэатрам. Насьця была добрым гледачом. На гэта таксама патрэбная здольнасьць. Далёка ня кожны можа ўспрыняць абстрактны тэатральны сьвет. Я ведаю людзей, якія кажуць: «Я не разумею». А вось яна ўсё магла ўспрыняць, хадзіла да мяне ў тэатар з радасьцю. Насьця хацела ў тэхнікум пайсьці вучыцца, яна не плянавала спыніцца на тым, што было на той момант. Яна была яшчэ несфармаваным чалавекам, для яе ўсё было наперадзе. Маёй дачцэ трэ было спыніцца, агледзецца ў гэтым жыцьці, пасьля — выбраць сабе прафэсію, пайсьці вучыцца. А часу на гэта забракла... У чалавека накрэсьлены лёс. Каго мы сустракаем у сваім жыцьці, хто становіцца бацькам нашых дзяцей — гэта доля, наканаваньне. Мы ўсе імкнемся быць дарослымі, а Насьця ўвесь час казала: «Божа мой, мне ўжо васямнаццаць! Я такая старая!» Для яе гэта было ўжо ўсё... Яна не хацела дажываць да гэтага веку. Напэўна, гэта ўнутранае, ня шостае, а дзясятае пачуцьцё. Мы зь ёй любілі займацца кардоннымі мазаікамі. Я пыталася: «Насьця, што табе падараваць на васямнаццаць гадоў?» Яна адказвала: «Мама, я хачу мазаіку!» Я так і не сабралася купіць яе. А яна іх так любіла, так па-майстэрску складала...

*Працяг на старонцы 6.*

# 9 ГАДОЎ ЯЗДЫ

27 траўня ў 91-м годзе пачала выходзіць адноўленая «Наша Ніва». Гэта значыць, што ў працягласьці існаваньня газэта перажыла сваю папярэдніцу, якая зачынілася на дзявятым годзе. Праўда, і сёньняшняя «Наша Ніва», як сказаў нам сьледчы пракуратуры Новікаў, «вісіць на валаску». Толькі прычынай закрыцьця можа стаць не сусьветная вайна, як было ў выпадку з папярэдніцай, а тое, што беларуская газэта надта не падабаецца цяперашнім уладам. Другое папярэджаньне «Нашай Ніве» вынесенае за артыкул Сямёна Шарэцкага «Зараза фашызму. А.Лукашэнка капіруе А.Гітлера». Пасьля гэтага ўлады могуць зачыніць выданьне ў любы момант. Што мы маглі адказаць сьледчаму пракуратуры? Толькі тое, што зашмат антыфашызму, на нашу думку, не бывае.

Галоўная выснова ад сустрэчы з Новікавым. Рэспубліканская пракуратура кіруецца ідэалягічнымі матывацыямі, а зусім не законам. Прыгожа памерці мы вам не дамо, — сказаў Новікаў. «Прыгожа памерці» ў ягоным уяўленьні — значыць, быць зачыненымі з шумам, каб «сіяністы» (верагодна, маецца на ўвазе Захад увогуле) казалі, што ў РБ няма свабоды слова.

Рэдакцыя будзе аспрэчваць чарговае папярэджаньне без спадзеву на посьпех. Урэшце, мы маем справу з праваым самавольствам уладаў. Заманецца ім забараніць «НН» — забароняць, не заманецца — будзе газэта і далей «вісець на валаску». Адзінае, што мы можам і што вынікае з нашае адказнасьці перад чытачамі — гарантаваць выхад чарговага нумару незалежна ад таго, зь якой нагі ўстане заўтра таварыш пракурор альбо спадар Падгайны. Ні «прыгожа», ні «непрыгожа» паміраць мы не зьбіраемся, хоць бы ўжо таму, што кантэкст нашага існаваньня шырэйшы за цяперашні палітычны рэжым РБ.

Калі дзевяць гадоў таму друкаваўся першы нумар адноўленае «Нашай Нівы», Баранавічы сьвяткавалі свой стогадовы юбілей. Мы выйшлі з раённай друкарні і задзёрлі галовы ўгару. Проста над намі на гарадзкі пляц апускаліся парашутысты. Заставалася роўна два месяцы да прыняцьця дэклярацыі сувэрэнітэту Беларусі, недзе ў Вільні адзначалася гадавіна беларускае тэлепраграмы, якая тады рабілася ў падпольлі, як і ўся тагачасная тэлевізія, прагнаная са свайго будынку танкамі генэрала Ўсхопчыка, які нядаўна стаў намесьнікам міністра абароны Беларусі. Сьледам за парашутыстамі па цэнтральнай баранавіцкай плошчы пайшлі сьвяточныя калёны дэманстрантаў, а мы загрузіліся ў мікрааўтобус, бо сьпяшаліся завезьці дэбютны нумар «НН» у менскі Дом літаратара, дзе праходзіў першы зьезд Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Рэдакцыя газэты мясьцілася тады на Траецкім прадмесьці ў музэі Багдановіча. Памятаю, мы складалі там прывезеныя з Баранавічаў аркушы першага нумару і на гадзіну мусілі адарвацца ад гэтае справы, бо разам з музэйнікамі пайшлі ўскладаць гірлянду з кветак да помніка Максіму Багдановічу — адзначалася гадавіна ягонае сьмерці.

За прамінулы час зьмянілася краіна і ўлада ў ёй. «НН» стала болей пісаць пра палітыку. Да ўлады прыйшла «чвэрцыінтэлігенцыя». Менавіта так заўсёды пачынаецца фашызацыя грамадзтва. Верагодна, мы будзем зноў і зноў пісаць пра заразу фашызму, які спакваля і амаль незаўважна займае чынавенскія кабінэты і аднойчы можа раптам стаць усеахопнай рэальнасьцю. Вось тады штосьці рабіць будзе ўжо позна.

Рэдакцыя

лісты ў рэдакцыю

## Захад-Усход

*Не, размова ня пойдзе пра супрацьстаяньне капіталізму і сацыялізму. Пра гэта ўжо напісана шмат. Тут нашмат прасьцейшая і больш рэальная гісторыя аб ідэалягічных, а галоўным чынам, лінгвістычных «сутычках» паміж заходнімі і ўсходнімі беларусамі.*

*Дзяўчына Тоня, скончыўшы Віцебскі вэтэрынарны інстытут, была накіраваная на практыку ў Браслаўскі раён. Не зважаючы на расейскае аблічча і нутро савецка-беларускага Віцебску, Тоня ўсё-такі захавала родную шумілінскую беларускасьць і нейкую рамантычную натуральнасьць, якой так бракуе нашым інтэлектуалам. Вядома, што Віцебшчына — гэта досыць разнастайны край, які адрозьніваецца сваімі «мальцамі», «лятучкай» ці «сяньня». Вядома таксама, што заходняя Віцебшчына ня мае анічога агульнага з уласна Віцебскам і ўяўляе сабой гістарычную Віленшчыну. І адміністрацыйна, і культурна.*

*Дык вось, аднаго разу Тоню тэрмінова выклікаў старшыня калгасу і наказаў ляцець маланкай на фэрму, дзе ўсю ноч раўла млявая карова. І наказаў пасьпяшацца. У апошнюю хвіліну старшыня кінуў вэтэрынарцы:*

*— Чакай, Тоня. Зараз табе ровар дадуць. Гэтак хутчэй будзе.*

*Сумленная і надта абавязковая Тоня выскачыла на шлях з мэдычным саквояжыкам і пачала чакаць «ровар».*

*Глядзеўшы ў абодва бакі шашы, яна вельмі хвалявалася пра каройку, якая ня спала ўсю ноч. І ейнае хваляваньне павялічвалася, бо ня бачна было ніякага «ровара». Нагаворваючы ў думках на старшыню, Тоня раптоўна ўбачыла веласіпед. Каб не чакаць «ровару», яна спрытна села на веласіпед і паляцела на калгасную фэрму. Яшчэ ля крушні яна заўважыла хэўру калгасьнікаў: дужа пакутавала карова.*

*— Чаму ж так доўга, дзетачка? — запытаўся стары.*

*— А! — адказала Тоня. — Чакала «ровара», які абяцаў падаць старшыня. Дык не дачакалася. Бачу — веласіпед ляжыць, дык вырашыла не чакаць машыны, а ехаць веласіпедам, — скончыла захаканая Тоня, паказваючы на веласіпед.*

*Рогату было!*

*З таго часу за вэтэрынарачкай мянушка: Тоня-Ровар.*

**Уладзіслаў Гарбацкі, Віцебск**

ВОДГУК

## Прэзыдэнт зь вялікай літары

*У #19 за 10 траўня ў артыкуле А.Трусава «Беларускі рэфэрэндум — Пірава перамога мясцовай намэнклятуры» слова «прэзыдэнт» было напісана зь вялікай літары. Я лічу гэта проста непрымальным. Быццам цяпер чую словы маёй настаўніцы мовы й літаратуры: «Назвы пасадаў і прафэсіяў заўсёды пішуцца з маленькай літары». А «прэзыдэнт» — хоць і большая за ўсе іншыя, але ўсё-такі пасада. Якая ў любы момант можа быць занятая іншым чалавекам.*

*Хачу зьвярнуць увагу рэдакцыі на гэтакую рэч. У Сьвятым Пісаньні назвы народаў заўсёды пісаліся зь вялікай літары. А так яно й павінна быць. Бо назва народу ёсьць уласным імем. Апрача таго, імя зьяўляецца паказчыкам таго, што дадзены чалавек альбо народ — жывы.*

*«...Ты носіш імя, быццам жывы, але ты мёртвы» (Адкр. 3:1 ). І калі нават у дэмакратычнай прэсе слова «Беларусы» напісана з маленькай літары, неяк язык не паварочваецца крынуць: «Жыве Беларусь».*

**Сяржук Пятровіч, Барысаў**

МОВА




Фота В.Юцкевіча

## Статак зуброў — 500 галоў

Статак беларускіх зуброў удвая перавышае колькасьць гэтых рэдкіх жывёлаў у лясах Польшчы. Пра гэта паведаміў міністар прыродных рэсурсаў і навакольнага асяродзьдзя Беларусі Міхаіл Русы. Міністар кажа, што да 2001 году статак зуброў у нас мае дасягнуць пад 500 галоваў. Зуброў трымаюць у шасьці запаведніках краіны, а элітны генэтычны статак — у нацыянальным парку «Белавеская пушча». Сёлета мяркуюць расьсяліць зуброў яшчэ ў трох запаведніках Беларусі, каб у бліжэйшыя гады жывёла перастала лічыцца рэдкай і была выключана з «Чырвонай кнігі».

## Сустрэчы ў Вашынгтоне

24 мая старшыня камітэту па міжнародных справах сэнату ЗША, крайне правы амэрыканскі сэнатар Джэсы Гелмз сустрэўся зь лідэрамі беларускай апазыцыі. Сэнатар паведаміў пра свой намер выступіць з заканадаўчай ініцыятывай аб павелічэньні дапамогі з боку Злучаных Штатаў дэмакратычным сілам Беларусі. Гутарка Гелмза зь Вінцуком Вячоркам, Анатолем Лябедзькам, Зьмітром Бандарэнкам выклікала рэзка адмоўную рэакцыю беларускага Міністэрства замежных справаў. У сваёй суботняй заяве МЗС кажа, што апазыцыя сама ня хоча ўдзельнічаць у дыялёгу.

**Паводле інфармацыі БелаПАН**

## Японцы могуць укласьці грошы ў Наваполацак

Японскія фірмы *Mitsui* і *Toyo* падпісалі зь Беларусяй пагадненьні ў справе ўдзелу ў рэструктурызацыі Наваполацкага нафтаперапрацоўчага камбінату. Замежныя партнэры дэкляравалі гатоўнасьць выдзеліць Беларусі на гэтыя мэты крэдыт у 90 мільёнаў даляраў. «Нафтан» шукаў сродкі сабе на рэканструкцыю зь сярэдзіны 90-х. Найбольшы інтарэс да наваполацкага гіганту да гэтага часу выказвалі расейскія кампаніі «Лукойл» і «Юкас», якія быццам бы згодныя былі ўзамен на пагашэньне беларускіх пазыкаў Расеі прыўласьціць сабе частку прадпрыемства праз канцэрн «Ітэра». Японцы ж на акцыі «Нафтану» не замахваюцца. Інвэстыцыі японцаў прызначаныя на канчатковую фазу рэфармаваньня нафтакамбінату. Але гарантыяў на прыход гэтых японскіх інвэстыцыяў пакуль што няма.

**Паводле інфармацыі БАРСу**




Фота В.Юцкевіча

***Прыхільнікі стварэньня асобнага ліцьвінскага народу, што складаўся б із заходніх беларусаў, зьбіраліся ў Навагрудку, каб абвесьціць «акт існаваньня ліцьвінскай нацыі». Сярод іх былі музыка Ўладзімер Бербераў, бард Андрэй Мельнікаў, пісьменьнік Вітаўт Чаропка.***

## Гарачай вады няма на ўсім Палесьсі

Ад 15 траўня да 10 чэрвеня пінчукі застануцца без гарачай вады — гэта ўжо другое адключэньне ад пачатку году. Аднак пінчукам яшчэ шанцуе. Жыхары суседніх Століна, Янава, Лунінца ды Дарагічына ўвогуле маюць гарачую ваду адзін-два зімовыя месяцы ды толькі на выходныя. Яшчэ пара гадоў такога жыцьця, і мы дазваньня забудземся, што такое цывілізацыя.

**Аляксей Дзікавіцкі, Пінск**

## Пад адкрытым небам

20—21 траўня пад Барысавам адбыўся скаўцкі летнік, праведзены спартова-турыстычным клюбам «Волат». У ім узялі ўдзел каля 100 бойскаўтаў з Барысава й раёну, Жодзіна, Менску, Маладэчна. Летнік адкрыўся ўвечары 20 траўня спаборніцтвамі па спартовым арыентаваньні. За чэмпіёнскі тытул змагалася сем камандаў. У выніку напружанай барацьбы перамаглі барысаўскія маладафронтаўцы. Затым была сьвяточная вячэра. Моладзь скупілася ля вогнішча й сьпявала пад гітару беларускія песьні. Наступны ранак распачаўся з паласы перашкодаў. Тут ужо мацнейшымі аказаліся спрытныя госьці зь Менску. Напрыканцы летніка, як гэта заўсёды бывае, моладзь мроіла пра наступныя сустрэчы пад адкрытым небам на беразе маляўнічага Старабарысаўскага возера.

**Анатоль Аскерка, Барысаў**

## Настаўнікаў — на сена

Усе школы Пінску замацаваныя ў якасьці «шэфаў» за калгасамі і саўгасамі раёну. Да ведама гарана даведзены плян нарыхтоўкі сена, які і быў падзелены паміж школамі гораду. Але ня ўсе настаўнікі жадаюць працаваць на сенакосе, у адной са школаў нават паспрабавалі адкупіцца — сабралі грошы ў эквіваленце заплянаванай колькасьці сена і перадалі старшыні «падшэфнай» гаспадаркі.

## Капаюць парэшткі з-пад стадыёну

У сярэдзіне траўня ў Глыбокім пачалі рэканструяваць стадыён. Рэч у тым, што пад полем знаходзяцца масавыя пахаваньні нямецкіх жаўнераў з часоў апошняй вайны, недзе 1500 чалавек тамака пахаваныя. Немцы ня раз наведвалі Глыбокае, прасілі перазахаваць парэшткі, бо, фактычна, футбольныя матчы чэмпіянату Беларусі 2-й лігі адбываліся на могілках. Урэшце дабіліся згоды, прычым плаціць за перанос нямецкі бок. Раскопкі вядзе спэцаддзел беларускага Міністэрства абароны.

## Мужчынскі й Жаноцкі ўнівэрсытэты

У ВНУ Беларусі сярод студэнтаў 47,7% — мужчыны, 52,3% — жанчыны. Найболей мужчынаў навучаецца ўва Ўнівэрсытэце інфарматыкі і радыёэлектронікі — 82,9% ад агулу. А самы жаночы — Лінгвістычны ўнівэрсытэт, дзе дзяўчатаў 79,5%.

**Паводле інфармацыі БАРСу**

ПАЗЫТЫВЫ

# НЕКАТОРЫЯ ВЫНІКІ ФУНКЦЫЯНАВАНЬНЯ НАРОДНАЙ ГАСПАДАРКІ БЕЛАРУСІ Ў СТУДЗЕНІ-КРАСАВІКУ 2000 ГОДУ

Наш народ кожны дзень радуецца, як чуе пра рост ВНП. І я вам пра тое з задавальненьнем раскажу. Вось зноў за чатыры месяцы ВНП пабольшаў на 5% пры гадавым прагнозе ягонага прыросту на 2—3%. Гэтай фэнамэнальнай зьявай мы абавязаныя імкліваму росту айчыннай прамысловасьці, які склаў 6,1% замест 3 па пляне.

Вельмі прыгожыя лічбы атрымаліся былі за чатыры месяцы, але, на табе, сапсаваў іх красавік. Чамусьці сакавіцкі ўзровень вытворчасьці перавышаны толькі прамысловасьцю будаўнічых матэрыялаў. Але наша дзяржава мацуецца перадусім мэталаапрацоўкай і машынабудаваньнем.

Гэтаксама адбылося ў красавіку і скарачэньне таваразвароту ў краіне, што незвычайна напярэдадні веснавых сьвятаў, хаця рост за чатыры месяцы быў. Але выклікае шчырую занепакоенасьць пераключэньне шырокіх масаў працоўных з гарэлкі (-9%) на віно (+17%), што сьведчыць пра нейкія глыбінныя зрухі ў сямейных фінансах.

Хутчэй за ўсё, гэта зьвязана з праблемамі эфэктыўнасьці зьнешняга гандлю, падмурку беларускага дабрабыту. Замест 3% адбыўся рост экспарту на 27%, але імпарт зноў апярэдзіў яго, і пры плянавым росьце на два адсоткі ўзрос на 42%.

Пра высокі рост рэальных грашовых прыбыткаў насельніцтва няма чаго казаць, бо кожны адчувае яго на ўласнай кішэні. Карацей, яны дасягнулі 16%. Магчыма, гэтае меркаваньне падасца ня вельмі слушным калгасьнікам, 62% якіх атрымліваюць свой заробак са спазьненьнем, прычым запазычанасьць у вёсцы складае ўжо пад 70% месячнага фонду зарплаты. Але ня трэба хвалявацца, гэта зусім ня многа, бо сярэдняя зарплата трактарыста ў сакавіку была меншай за мінімум, вызначаны дзяржавай як мяжа галечы (21 тыс. руб.).

Фінансавае становішча прамысловых прадпрыемстваў гэткае самае, як і ў гераічных калгасьнікаў. Вы ўжо чулі, што яны працуюць зь перавыкананьнем пляну, але на 1 красавіка 34% прадпрыемстваў былі стратнымі, супроць 24% той жа парой мінулага году.

Тым жа часам сярэдняя рэнтабэльнасьць у «народнай гаспадарцы» зьменшылася да 9,5% супроць 13,9% у першым квартале мінулага году.

Усё гэта парадаксальным чынам адбываецца на фоне запавольваньня тэмпаў росту інфляцыі па месяцах (студзень — 114,1%, люты — 109,3%, сакавік — 105,8%, красавік — 105,1%). Мабыць ня толькі ў манэтарысцкіх намерах Нацбанку рэч, але, прыкладам, і ў сельскай гаспадарцы, і ў накірунках інвэставаньня, і ў актыўнасьці спажыўцоў, г.зн. нас з вамі.

Дзякуй Богу, у першым квартале памёрла на дзьве з паловаю тысячы людзей меней, чым за тую ж пару летась. Але насельніцтва Краю ўсё ж паменшала на 11 тысячаў чалавек, бо ўсё меней тых, хто да нас едзе.

**Міхал Залескі**



Фота IREX-ProMedia

# ЗАЛЯ 200

*— Што сёньня такое? — пытаецца бабулька, што выпадкова праходзіла пад івамі ля ганку суда.*

*— Кажуць, Чыгіра судзяць, — адказвае нейкая жанчына.*

*— Хто такі Чыгір? — насьцярожваецца першая.*

*— Кажуць, будучы прэзыдэнт...*

*Абедзьве моўчкі ўражваюцца відовішчам.*

На ганку ўжо стаіць натоўп, чалавек сто. Людзі папрыходзілі за хвілінаў сорак да пачатку паседжаньня. Роўна на столькі ж раней прыехаў амон. Ягоны шыхт высокі й шчыльны, як каменны плот.

Чуваць просьбы, загады, ушчуваньні і крыкі. Лёгкая штурханіна. Уразаючыся ілбом у нечае магутнае плячо, пачынаю разважаць, ці не пампу ад суму, калі ў Беларусі рэзка ўсталюецца дэмакратычны лад. За апошнія гады мы добра-такі «падселі» на адрэналін у крыві...

Паколькі карэспандэнт «НН» — не тэлеапэратар, не прадстаўнік інфармагенцтва й не Курбека з БТ, у будынак мяне не прапускаюць. Але хутка нехта заўважае: у залі 200 адчыненыя вокны. Прапанова скандаваць пад вокнамі «Свабоду Чыгіру!» прымаецца. Вокны залі 200 зачыняюцца. Затое да іншых вокнаў ліпнуць постаці судовых супрацоўнікаў.

Легендзе менскіх шэсьцяў, Веры Церлюкевіч, так і не ўдалося прабрацца ў будынак. Спн.Вера вельмі перажывае й дастае з сумкі абразок. Уздымае яго над галавой у напрамку залі 200. Ля скандуючых тупае задуменны міліцыянт з мэгафонам. Я прашу яго пазычыць рупар нам. «Хлопчыкі ў цывільным» з органаў бясьпекі цэляць аб'ектывамі камэраў. Твары ў хлопчыкаў «чалавечаскія». Шукаюць ракурсы для гісторыі.

За справу бярэцца знакаміты маёр (ці мо ўжо й не маёр) Гіраль. Ён крычыць у мэгафон амаль чыста па-беларуску:

— Грамадзяне! Я разумею вашыя пачуцьці! Ня трэба скандаваць — вы мяшаеце работаць! Давайце лепш разам памолімся на гэты абразок!

Вось што значыць гадамі ахоўваць акцыі Маладога Фронту! Прыхільнікі Чыгіра яшчэ скандуюць «Свабоду!» далей, і міліцыянты спраўджваюць абяцаньне, што пахапаюць парушальнікаў парадку. Затрыманьне Зьмітра Марчука і Яна Грыба праходзіць неяк зусім будзённа, культурна й ветліва. Вам трэба выканаць плян — вось добраахвотнікі. Проста як здача ў палон... Такое ўражаньне, што абодвум бакам даўно надакучыла біцца, псаваць нэрвы й беларускі генафонд. Вось каб тут стаялі маскоўскія амонаўцы... Дый скандаваньні сьціхаюць, і прыхільнікі разыходзяцца. «Які Чыгір, такія й прыхільнікі», — плюецца нейкі хакэпіст.

Усе радаваліся, што Міхаіла Чыгіра не адвезьлі ў турму проста з залі. Што ж, хоць умоўны тэрмін і агромністы, хоць штраф і вар'яцкі — усё ж чалавек застаўся на свабодзе... Натоўп замежных паслоў пакідае залю. Выйшлі Чыгіры. Натоўп карэспандэнтаў абступае іх на ганку. Міхаіл Чыгір расслаблены. Юлія Чыгір зусім па-свойску паказвае абдзёртую зранку амонаўцамі да крыві руку. Выстаялі.

Не дарма нумар залі, дзе заўжды праходзяць палітычныя суды, супадае па нумары з расейскім «грузам 200». Менавіта тут паэтапна адбываецца пахаваньне айчыннай Фэміды й чыіхсьці ілюзіяў. За сапраўды будучых прэзыдэнтаў не здаюцца ў палон на пляне захопніка — за іх змагаюцца і ўчыняюць скандал без індульгенцыяў і саступак. Так што да перамогі нам яшчэ жыць ды жыць — гэтак жа весела, ды без асаблівай радасьці.

**Тацяна Сьнітко**

# ДАПАМОЖАМ СУАЙЧЫНЬНІКАМ У НЯВОЛІ!

***Гэткі ліст перадалі нам з Гомельскае абласное Ўправы нутраных справаў:***

«У сыстэме выкананьня пакараньняў Гомельскай вобласьці склалася вельмі цяжкае матэрыяльнае становішча з-за недастатковага фінансаваньня. Не стае самых неабходных рэчаў: абсталяваньня й вопраткі. Асабліва цяжкія праблемы ў жаночай ППК № 4 і сьледчым ізалятары № 3, што ў Гомелі, дзе пры ліміце напаўняльнасьці 1350 і 1100 чалавек утрымліваецца адпаведна 2800 і 2000 грамадзянаў.

Акрамя таго, у жаночай калёніі ёсьць Дом дзіцяці, дзе знаходзіцца 60 дзяцей ва ўзросьце да 3 гадоў. Іх маці адбываюць пакараньне.

У сьледчым ізалятары № 3 з 1993 году будуецца новы рэжымны корпус, які дазволіць вырашыць праблему цеснаты ў СІЗА. Аднак для яго заканчэньня патрэбна 1180 рублёў у коштах 1991 году і абсталяваньне для сталоўкі, варэльні і лазьні.

У Веткаўскім раёне Гомельскай вобласьці знаходзіцца жаночая калёнія-паселішча № 21, куды асуджаныя адпраўляюцца з ППК № 4 і наўпрост з залі суду. Уся маёмасьць гэтых грамадзянак складаецца з таго, што на іх апранута. Жабрацтва і разарваныя сацыяльныя сувязі не дазваляюць атрымаць нейкую дапамогу ад родных. Цяпер вядуцца працы па перапрафіляваньні былога вайсковага гарадку «Гомель-30» у в.Зарэчча Рэчыцкага раёну, куды пазьней будуць зьмяшчацца асуджаныя жанчыны. Пытаньне і ў цяжкасьцях з набыцьцём рэчаў пабытовага прызначэньня: лязьневага і вадагрэйнага абсталюнку, ложкаў, пасьцеляў, посуду й катлоў, аўтамабіля хуткай дапамогі і ўсяго такога.

Просім аказаць дапамогу ў набыцьці альбо перадачы для згаданых спэцустановаў Гомельшчыны наступных рэчаў і матэрыяльных каштоўнасьцяў:

Для ППК—24:

Місы алюміневыя — 500 (тутака й далей — штук). Талеркі алюміневыя — 500. Кубкі эмаляваныя — 500. Лыжкі — 500. Бак пад першую страву — 15. Бак пад другую страву — 15. Чайнік алюміневы — 15. Рондлі алюміневыя (9—10 л.) — 10. Кацёл наплітны 30—40 л — 6. Кацёл наплітны 50—60 л — 6. Апалонік — 4. Друшляк алюміневы — 3. Нож для гароднiны — 20. Нож хлебны — 4. Бляхі — 14. Вагі настольныя двухкіляграмовыя — 3. Вагі настольныя 10 кг — 3. Вагі таварныя 500 кг — 3. Матрац — 400. Прасьціны бавоўняныя — 1600. Навалачкі бав. — 800. Коўдры — 500. Ручнікі — 1600. Падушкі ватовыя — 400. Пральныя машыны — 2. Цэнтрыфугі — 2. Праскаток — 1. Дэзынфэкцыйная камэра для бялізны — 1. Ложкі двухпавярховыя — 200. Шафкі прыложкавыя — 400. Зэдлікі — 400.

Для ППК—4:

Найбольш патрэбныя для Дому дзіцяці: дзіцячыя ложачкі — 40, пральныя машыны — 2, прас-каток — 1, шафы для стэрылізацыі альбо сухажаравыя — 5, бактэрыцыдныя лямпы, электрагрэйнікі — 7, разавыя шпрыцы, штучныя елкі — 3, цёплы абутак для дзяцей да 3 гадоў, аўтамабіль хуткае дапамогі, дзіцячае харчаваньне: пюрэ, кашкі безмалочныя.

Вопратка жаночая
Абутак жаночы летні, зімовы
Тэлевізары для атрадаў — 25
Кінадэманстратар — 1
Сцэнічная заслона для клюбу
Мікрафоны, узмацняльнік
Абсталяваньне для шытва
Прасы
Абсталяваньне для праньня бялізны
Абсталяваньне для варэльні
Мэбля для сталоўкі
Пасьцелі
Мыйныя сродкі
Сьвяцільнікі для жыльлёвых сэкцыяў
Крэслы звычайныя — 450

Для ППК—21
Жаночая вопратка летняя і зімовая — 300 камплектаў.

***Хто можа дапамагчы чымкольвек, зьвяртацца на тэлефон (0232) 55-53-62 ва Ўправу нутраных справаў Гомельскага аблвыканкаму і дамаўляцца са сп.С.Зайцавым. Вопратку, абутак і дзіцячае харчаваньне можна прыносіць таксама на адрас Беларускага Гельсынскага Камітэту (Менск, вул.Лібкнэхта, 86, корп.1, кв.20.***



## Сьмерць у вайсковай частцы

18 траўня ў Баранавічах разгледзелі грамадзянскую справу па позьве Тацяны Дрозд пра матэрыяльную кампэнсацыю ў сувязі са сьмерцю сына. Яе сын, 16-гадовы Зьміцер Дрозд, загінуў летась 13 верасьня. Ён залез на тэрыторыю вайсковай часткі, шукаючы кавалак трубы для матацыкла на сьметніку. За Зьмітром з-за дроту сачылі яго таварышы. Дзіма пералез праз бетонны плот, дабег да дроту і, прыўзьняўшы яго, пралез на сьметнік. Са сьметніка ён вяртаўся подбегам і натыкнуўся на стралка-ахоўніка Янушкевіча. Стралок папярэдзіў: «Стой, страляць буду!» Дзіма напалохаўся і замарудзіў бег. Адлегласьць паміж Дзімам і вартавым была каля 5—6 мэтраў. Тады вартавы стрэліў, спачатку ўгору, пасьля на Дзіму, але зь першага разу не пацэліў. Дзіма працягваў бегчы і крычаў: «Дзядзечка, не страляй!» Трэці стрэл Янушкевіч зрабіў у накірунку Дзімы і забіў яго. Баранавіцкай міжгарнізоннай пракуратурай была ўзбуджаная крымінальная справа «па факце нападу невядомага мужчыны на вартавога-стралка Янушкевіча» і спыненая з-за адсутнасьці ў дзеяньнях Янушкевіча складу злачынства. Маці зьвярталася да камандзіра вайсковай часткі 55435 з просьбай даць грошы на пахаваньне сына і помнік. Камандзір адмовіўся, тады маці зьвярнулася ў суд.

Суд прысудзіў, што вайскоўцы мусяць сплаціць жанчыне частку грошай, праўда, ня столькі, колькі яна прасіла. Т.Дрозд зьбіраецца не адступацца і далей бараніць свае правы: яна згубіла свайго сына з-за таго, што вайсковыя інструкцыі ў Беларусі больш адпавядаюць краіне, якая вядзе вайсковыя дзеяньні, а не жыве мірным жыцьцём ужо 55 гадоў, лічаць праваабаронцы.

**Праваабарончы цэнтар «Вясна-96»**

## Канец прыватнай юрыдычнай адукацыі

235 студэнтаў 2-га і 3-га курсаў Пінскай філіі недзяржаўнага Інстытуту кіраваньня і прадпрымальніцтва могуць быць пазбаўленыя магчымасьці скончыць навучаньне — ад 1 верасьня юрфак, праўдападобна, будзе зачынены.

У інстытуце, які працуе ў Пінску з 96-га, пра будучыя праблемы ведалі даўно, бо ўжо летась на першы курс юрфаку прыём быў спынены. Цяпер, паводле словаў кіраўніка Пінскай філіі Інстытуту сп.Савінава, Міністэрствы адукацыі і юстыцыі зьбіраюцца выдаць пастанову, паводле якой з наступнага навучальнага году юрыдычную адукацыю можна будзе атрымаць толькі ў дзяржаўных ВНУ. Адпаведна, юрыдычныя факультэты ў недзяржаўных вышэйшых навучальных установах будуць зачыненыя. Але ў гэтым выпадку незразумела, што рабіць студэнтам, якія ўжо правучыліся па некалькі гадоў. У Беларусі іх каля 8 тысячаў. На сходзе, які адбыўся 26 траўня, кіраўніцтва пінскай філіі Інстытуту кіраваньня прапанавала студэнтам пісаць лісты ў адміністрацыю Лукашэнкі і прасіць, каб ён дазволіў ім давучыцца — прысутным быў прачытаны нават прыкладны тэкст звароту.

Аднак большасьць студэнтаў ня верыць, што адныя лісты могуць штосьці зьмяніць.

**Аляксей Дзікавіцкі, Пінск**

# ЛЯ ВЫТОКАЎ МЕНКІ

Сёлетні археалягічны сэзон у Беларусі пачаўся з раскопак на комплексе помнікаў у Гарадзішчы на рацэ Менцы, якое папярэднічала узьнікненьню замчышча на рацэ Нямізе, дзе пазьней паўстаў Менск. Гарадзішчанскае паселішча ў старажытнасьці кантралявала акругу між Нёманам і Птычай, па якой праходзіў гандлёвы шлях з Балтыйскага мора ў Чорнае. Як цэнтар акругі спыніла існаваньне ў другой палове XI ст., калі было збудавана замчышча на беразе Сьвіслачы пры сутоку яе зь Нямігай.

Упершыню раскопкі гарадзішча на Менцы былі праведзеныя ў 1930-м археолягам А.Рынейскім, пазьней дасьледзіны помніка былі працягнуты А.Ляўданскім (1935), А.Мітрафанавым (1954), у 1963 і 1967-м гарадзішча капаў Э.Загарульскі, у 1969 і 1970 гады М.Ткачоў, і ў 1976—83 Г.Штыхаў. У 1992-м годзе па доўгім перапынку працягнуў капаньне нетраў старажытнага паселішча археоляг Юры Заяц. Ад 1996 году дагэтуль Ю.Заяц капае пасад гарадзішча разам з студэнтамі аддзяленьня музэязнаўства Беларускага ўнівэрсытэту культуры. Сёлета раскопы не далі жаданага выніку. Былі знойдзеныя адно кавалкі посуду X—XI ст. і керамічныя аскепкі ды фрагмэнты кахлі канца XVI — пачатку XVII ст. Найцікавейшай знаходкай была прасьліца VIII—IX ст. Нічога не знайшлі і ў гаспадарчых ямах. На думку сп.Зайца, гэта не прычына для засмучэньня — значыцца, недзе зямля хавае іншыя рэчы. Налета Ю.Заяц разам з студэнтамі ўнівэрсытэту культуры працягне раскопкі. І сэнс капаць тут сапраўды ёсьць. Помнік цікавы ня толькі сваёй блізінёй да Менску. Найдаўнейшыя знаходкі належаць да IV—V ст., калі на зямлі балцкае культуры штрыхаванае керамікі перасяліліся носьбіты славянскае бандцараўскае культуры. Сталая прытока славянскага жыхарства на землі цяперашняе Меншчыны прасочваецца й паводле знаходак валынцоўскай ды лука-райкавецкай культур. Ужо ў VI—VIII ст. паселішча тут існавала на абодвух берагах Менкі, а на X ст. прыпадае росквіт гэтага населенага пункту. У зьвязку зь пераносам паселішча на бераг Сьвіслачы і заснаваньнем Менскага княства, Гарадзішча на Менцы занепадае. У XI—XIII ст. жыцьцё тут нібы зьнікае — археалягічныя пласты гэтага пэрыяду найбяднейшыя, няма ўласьцівых гораду таго часу шкляных бранзалетаў. У XIV—XV ст. тут наагул амаль ніхто не жыве, тлумачэньні на гэты конт могуць быць розныя, але пры канцы XIII — канцы XV ст. вельмі шмат паселішчаў занепадае, а некаторыя сельскія зьнікаюць наагул. Нечаканы росквіт Гарадзішча на Менцы назіраецца ў XVI ст., калі тут існавала мястэчка (аналягічныя працэсы адраджэньня жыцьця назіраліся ў суседніх сядзібах ды вёсках). Але ў выніку вайны з Маскоўшчынай сярэдзіны XVII ст. Гарадзішча, зруйнаванае ды спаленае, канчаткова занепадае, пра што сьведчыць амаль поўная адсутнасьць знаходак пазьнейшага часу.

Да канца XIX ст. у цэнтры гарадзішча стаяла сядзіба славутага Пішчалы, які пачаў быў будаваць сабе замак у Менску, ды празь нястачу сродкаў мусіў яго перапрадаць, не дабудаваўшы, менскім гарадзкім уладам, якія пераабсталявалі дамураваную каменіцу ў вязьніцу, цяпер больш вядомую з назовам «Валадарка». У 1950—60 гады мясцовы калгас хацеў зрабіць на гарадзішчы стадыён паводле ўзору стадыёну на Ніжнім замку ў Полацку — стромыя схілы валоў гарадзішча добра тарнаваліся да глядзельных трыбун. Праект ня быў ажыцьцёўлены, але культурны пласт быў добра перакапаны, таму й сьляды ад сядзібы Пішчалы, ці ад ранейшых пабудоваў знайсьці цяжка. Цяпер вёска Гарадзішча ўлучана ў турыстычныя маршруты па Менску й ваколіцах сталіцы. Яшчэ на пачатку 1990-х сюды вазілі сваіх вучняў настаўнікі гісторыі, абуджаючы ў іх любасьць да роднага краю.

Археоляг Юры Заяц тлумачыць сваю зацікаўленасьць у дасьледаваньні гарадзішча на Менцы проста: «Дасьледую яго найперш дзеля студэнтаў — недалёка ад Менску везьці дый капаць няцяжка — пласт невялікі, але разначасавы, а таму помнік падаецца надзвычай цікавым. Праўда, капаўся ён не заўжды правільна. Да таго ж, зноў жа й дзеля навучаньня студэнтаў, помнік эталённы. У выніку падліку керамікі на квадраце вызначаецца інтэнсыўнасьць жыцьця на аб'екце, а дадатковыя зьвесткі даюць мацерыковыя ямы». Дадамо, што Юр'ю Зайцу належыць грунтоўнае дасьледаваньне старажытнага Заслаўя. Быць можа, праз пэўны час, мы прычакаем і кнігі пра Гарадзішча на Менцы, адкуль некалі пачалася гісторыя беларускае сталіцы.

**Віктар Мухін**

дзе варта быць

## Сола N.R.M.

N.R.M.

Тыдзень распачынаецца няблага: 29 траўня ў канцэртнай залі «Менск» свой сольны канцэрт ладзіць «N.R.M.». Гурт прэзэнтуе сынгал «Самотнік». Энэрмаўцы рыхтуюць сюрпрыз-пэрфоманс. Фаны пачуюць ня толькі старыя ды новыя песьні «N.R.M.», але й пераможцы аператарніка ў слухачоў Радыё «Гамон» — «дзяржаўнага СМІ Незалежнай Рэспублікі Мроі». Пачатак а 19-й. Квіткі каштуюць ад 1800 да 3500 рублёў.

## Гарадзенскі фэстываль

2-3 чэрвеня ў Горадні адбудзецца трэці Ўсебеларускі фэстываль нацыянальных культураў. Пятнаццаць нацыянальных дыяспараў будуць прэзэнтаваць больш за 600 артыстаў. Чакаецца, што ў гэты час з-за мяжы прыедзе яшчэ каля 400 чалавек, у іх ліку — прафэсійныя і непрафэсійныя музыкі, паэты, артысты, амбасадары дзяржаваў, чые нацыянальнасьці будуць прадстаўленыя на сьвяце. У фэсьце будуць удзельнічаць армяне, карэйцы, татары, немцы, азэрбайджанцы, палякі, літоўцы, латышы, украінцы, цыганы, башкіры і інш. З Гарадзенскай вобласьці зьедуцца больш за сто майстроў народнай творчасьці. Плянуецца, што ў першы дзень сьвята пройдуць тэатралізаванае шэсьце дэлегацыяў нацыянальна-культурных аб'яднаньняў Беларусі і гасьцей фэстывалю па вуліцах Гародні і галя-канцэрт на Савецкай плошчы. У другі дзень будуць адбывацца разнастайныя імпрэзы, пад канец другога дня на Савецкай плошчы адбудзецца канцэрт гурту «Палац».

## Два хоры

30 траўня а 19-й у Канцэртнай залі Філярмоніі разам выступаюць хор гораду Віндзар, што ў Ангельшчыне, хор беларускай Акадэміі навук ды сымфанічны аркестар Беларускай акадэміі музыкі «Маладая Беларусь».

## Анёл у касьцёле

7 чэрвеня у Чырвоным касьцёле — «Анёл з адным крылом...» Вечарына-прэзэнтацыя новай кнігі вершаў «Рандо» і песеннага магнітаальбому «Як яна і я...» паэта-барда Эдуарда Акуліна. У імпрэзе бяруць удзел вядомыя беларускія паэты і барды. Пачатак а 19-ай гадзіне.

## Малады джаз

31 траўня а 19-й у менскім Доме дружбы малады музыка, студэнт Акадэміі музыкі Леанід Гурвіч прэзэнтуе свой джаз-праект, удзел у якім бяруць таксама Сяргей Анцішын, Карэн Карапецян і Кірыл Шэвандо. Уваход вольны.

## Леўшуноў

30 траўня у 18.30 у Беларускім калегіюме Сяргей Леўшуноў чытае лекцыю «Беларусь: сучасны стан і альтэрнатыўная стратэгія разьвіцьця».

## Незвычайны канцэрт

У Беларускім відэаклюбе 3 чэрвеня а 18-й будзе дэманстравацца музычна-палітычны блёкбастэр гэтай вясны, фільм «Незвычайны канцэрт» вытворчасьці відэастудыі «Стоплукафільм».

**Алесь Кудрыцкі**

БТ вачыма беларуса

# МАЛАБЮДЖЭТНЫЯ НАВІНКІ І ПЭРФОМАНС ПІЛЬНАСЬЦІ

Ну вось і дачакаліся мы БТэшных прэм'ераў. Хрусталёў хваліўся, што многае ўдалося зрабіць задарма, але, гледзячы на сумны экран, думаеш — а навошта?!

«Адысэя каманды Кухто» — адна анімацыйная застаўка вясёленькая, а болей — нічога. Паставіліся ў студыі сьценку з тэлевізараў (трэба ж хоць нешта паставіць), паказваюць на іх тэксты пытаньняў (трэба ж хоць нешта паказваць), і тое бяз сэнсу, бо глядач тыя пытаньні прачытаць ня можа, экраны буйным плянам яму не паказваюць. Праграма наводзіць сум. На адным вядучым далёка не заедзеш.

Але гэта дробязь у параўнаньні з «Буднямі». Адсутнасьць застаўкі (нельга ж за яе лічыць праезд у кадры слова «будні»), бляклая чорна-шэрая ды брудна-блакітная студыя, тая ж сьценка з тэлевізараў, якія ўжо нічога не паказваюць. Ну, проста поўная аналёгія з нашымі рэальнымі буднямі... (А мо гэта тонкі мастацкі прыём?!) Шоўмэн Кузін вельмі стараецца выглядаць крутым і вострым. Сваімі ж «сюжэтамі» для ілюстрацыі пэўных праблемаў аўтары «Будняў» заб'юць любога. Пра што б ні вялася гаворка — пра слабыя вынікі міжнародных матчаў, ад'езд малады гульцоў за мяжу ці што яшчэ, на экране пад бубнёж нейкай дзеўчыны бясконца бегалі па полі нейкія адны й тыя ж футбалісты...

Пра «Нашы песьні» нават і сказаць што цяжка. Зьбіраецца колькі дзясяткаў (улучна зь дзецьмі) людзей, якія ня ўмеюць сьпяваць (улучна зь вядучымі ды іншымі выступоўцамі з сцэны), ды дэманструюць, як хто зь іх памятае песьні трыццацігадовай даўніны. Ну, і дэманструйце.

Усе новыя праграмы расейскамоўныя. Быццам гэта дадасьць ім папулярнасьці. І ўсе іх яшчэ па тры разы паўтараюць!

...Арт-фэстываль «Менская вясна» БТ здымала. Прыехала група «Добрай раніцы» здымаць пэрфомансы, а тут міліцыя: «Папрашу ўсіх з камэрамі і фотаапаратамі!» І пратрымалі ў бліжэйшым пастарунку паўгадзіны. Высьвятлялі, што за акцыя, дзе дазвол, хто здымае, дзе дазвол. Ды яшчэ — «вам той экспанат з вусікамі нікога не нагадвае?» Аказваецца, дырэктарка кінатэатру «Радзіма», ля якога пэрфомансы адбываліся, прыявіла пільнасьць ды заўважыла наяўнасьць пудзіла з вусамі. Праўда, не заўважыла, што бяз лысіны і нават у капелюшы. Паскардзілася міліцыянтам, і тыя забаранілі здымаць, без асаблівых тлумачэньняў (самае сьмешнае, што паказ пэрфомансаў працягваўся). Вось так у нас кожная дырэктарка камандуе, што здымаць, а што не, а потым паракае, што глядзець няма чаго.

**Арцём Лук'яновіч**



Фота Дзяніса Носава

спорт

# GOLDBUSTERS



Да пачатку Алімпіяды ў Сыднэі застаецца менш за 4 месяцы. Самая пара ўзгадаць пра беларускіх паляўнічых на алімпійскія мэдалі, якія ўжо даўно рыхтуюцца да аўстралійскага сафары. Зрэшты, ня ўсе аматары паганяцца за алімпійскай здабычай трапяць у Сыднэй. Гэта стала зразумела, калі Нацыянальны Алімпійскі Камітэт пасядзеў на сваім паседжаньні. Выседзелі спартовыя чыны папярэдні сьпіс тых, каму трэба пакаваць свае ракеткі, пальчаткі, шпагі, плаўкі, стрэльбы... Агулам названа каля 130 беларускіх атлетаў (яны стартануць у 21-м з 28-ёх відаў алімпійскай праграмы), якія ўвосені возьмуць курс на самы маленькі кантынэнт планеты. Пара дзясяткаў нашых спартоўцаў, аднак, застануцца дома, бо, хоць яны і заваявалі алімпійскія ліцэнзіі, да алімпійскага п'едэсталу даскочаць наўрад ці. Ва ўсялякім разе, так лічаць у НАКу. Ім лепей відаць, яны ж камітэт, а камітэт — установа сур'ёзная. Канчатковы ж сьпіс беларускіх паляўнічых на мэдалі будзе вядомы пры канцы жніўня.

Колькі ж здабычы плянуюць прывезьці з Алімпіяды беларускія лаўцы мэдалёў? Міністар спорту Яўген Ворсін, вокам не зьміргнуўшы, заявіў, што 15. Чаму менавіта 15? Бо столькі ж узяла беларуская каманда на мінулых гульнях у амэрыканскай Атлянце. Пагаршаць паказчыкі не дазваляе Лукашэнка.

А каб у беларускіх алімпійцаў загарэліся вочы ды ногі самі пакрочылі да п'едэсталу, улады абяцаюць сваім будучым героям прэміі-падарункі. Уладальнік бронзы атрымае 22,5 тысячы баксаў, срэбра — 40 штук, ну, а залатыя алімпіец пакладзе ў кішэню ажно 60 тысячаў адзінак шурпатай зелені ды атрымае на халяву кватэру ў Менску. Пераможцам Нагана абяцалі ўдвая меней. Цікава, калі беларусы выйграюць не 15, а цэлы мех узнагародаў, ці ня зьменшыцца пасьля Алімпіяды курс мэдаля?

**Богусь Біятляшёнак**



# ЯК ЗРАБІЦЬ МІР

***То ў адным, то ў другім кутку Афрыкі ўспыхваюць войны. Чорны кантынэнт стаў кантынэнтам безнадзейнасьці***

Урад Сьера-Леонэ апынуўся заціснуты ў сталіцы, як некалі ўрад Паўднёвага Віетнаму — у Сайгоне. Жыхары абкладзенага места заўважылі, што ўсе белыя з рэчамі цягнуцца да аднаго месца, і праз колькі хвілін пачулі шум шрубалётаў — белыя зьляцелі, а тубыльцаў, якія таксама прагнулі пакінуць краіну, чакала расчараваньне, бо 700 брытанскіх дэсантнікаў рупна правялі апэрацыю па выратаваньні толькі белага насельніцтва.

Жыхары гэтай малой афрыканскай сталіцы ў паніцы, бо аднойчы напачатку 1999 г. паўстанцы ўжо бралі Фрытаўн і тады спалілі трэцюю частку места і замардавалі некалькі тысячаў месьцічаў. Ваякі-паўстанцы звычайна п'яныя ды абкураныя і нішчаць ды калечаць на сваім шляху ўсё жывое — ёсьць у іх такая «забава» — адсякаць людзям рукі мачэтэ. У іхным войску вельмі шмат дзяцей, і лютасьць іх часта нематываваная. Тады, у 1999-м, аб'яднаныя сілы заходнеафрыканскіх дзяржаваў на чале зь Нігерыяй выбілі кілераў Аб'яднанага Рэвалюцыйнага Фронту з Фрытаўну. Гэтае ж войска з 8700 чалавек пад сьцягам ААН мусіла б абараняць насельніцтва краіны, але гэта ня войска, а сапраўдная катастрофа, што стала сымбалем марнасьці мірных мерапрымстваў ААН.

Стракатае паводле этнічнага складу, скалочанае найперш з прадстаўнікоў адсталых краінаў Афрыкі, яно складаецца з авантурнікаў, скванных на грошы, але няўмелых у вайне, і, да таго ж, дрэнна ўзброеных. У выніку больш за 500 зь іх трапіла ў палон. Паўстанцы пазабіралі ў іх машыны, зброю, форму і разабраць цяпер, дзе аанавец, дзе паўстанец, цяжка. У выніку жаўнеры ААН часта самі страляюць адзін у аднаго. Афрыка!

Сьера-Леонэ ўтрая меншая за Беларусь і жыве ў нэндзе, хаця мае вялікія запасы дыямэнтаў. З 1991 да 1996 г. там ішла грамадзянская вайна, а пасьля быў утвораны «ўрад нацыянальнага адзінства», дзе кантраляваць здабычу дыямэнтаў згодна з цынічным кампрамісам прызначылі правадыра паўстанцаў. Атрымаўшы гэтую пасаду, ён атрымаў грошы для далейшай барацьбы за ўладу, бо пачаў спэкуляваць тымі дыямэнтамі праз суседнюю Лібэрыю. ААН спрабавала дабіцца прымірэньня, пачала плаціць паўстанцам за здачу зброі, а таксама арганізоўваць магчымасьць для перавучаньня дзяцей-баевікоў. Але марна. Працаваць яны не хацелі, зброі мелі пад дастаткам — аўтамат каштуе столькі, колькі дзьве курыцы.

Атрымалася, што ў Сьера-Леонэ ААН замірала бандытаў, што й ня думалі выконваць пагадненьні, а толькі рыхтаваліся да вайны. ААН у чарговы раз паказала сваю неэфэктыўнасьць.

Прыродна багатая Афрыка пры гэтым пакутуе ад частых прыродных жа катастрофаў — апошнімі былі паводка ў Мазамбіку і суша на Афрыканскім Розе. Беднасьць і AIDS забіваюць тут, як нідзе ў сьвеце, але афрыканцы, нібы ня бачачы таго, варагуюць далей. Так, Этыёпія і Эрытрэя, якімі кіруюць некалі саюзьніцкія рухі, што разам колісь скінулі марксісцкі рэжым Мэнгісту, б'юцца за кавалак пустэльні, тым часам у іхных краінах тысячамі ад голаду памірае мірнае насельніцтва.

Паўтузіну афрыканскіх краінаў даслалі свае войскі ў Конга ці на бок дыктатара Кабілы, ці на бок трох паўстанцкіх рухаў, і афрыканцы атрымалі чарговую «Вялікую Афрыканскую Вайну». А што гэта за вайна, дастаткова сьведчыць той факт, што паўстанцы на ёй часта ваююць голыя, толькі ў амулетах ды чараўніцкіх масках, ды ядуць чалавечыну. Ці гэткія войны фармуюць нацыі? Сёньня ніхто й не заікаецца пра дасылку сілаў ААН у вялізнае Конга.

Між тым абвастраецца супрацьстаяньне белых і чорных у Зімбабвэ. Кажуць, брытанцы распрацавалі плян эвакуацыі 20 000 белых з гэтай сваёй былой калёніі, а ў Сьера-Леонэ толькі адрэпэтавалі яго.

Кофі Анан скардзіцца на няроўнасьць увагі міжнароднай супольнасьці да Афрыкі і, скажам, да Косава. Адміністрацыя Клінтана сьпярша абяцала павялічыць удзел ЗША у міратворчых апэрацыях, але пасьля правалу гуманітарнага ўмяшаньня ў Самалі ўсё правалілася. Клінтан перайшоў да канцэпцыі, што «ААН мусіць ведаць, калі яна павінна казаць «не» міратворчым апэрацыям».

Папярэднік Анана на пасадзе генсака Бутрас Галі неяк сказаў, што сусьветную супольнасьць «абыходзяць толькі войны багатых». У 1994 г. заходнія палітыкі ўпарта не заўважалі генацыду 800000 чалавек у Руандзе. Сёньня ніхто ня ўпэўнены, што тое самае не паўторыцца ў нейкай іншай краіне. У Косава й Тымор дапамога прыйшла. Крыху позна, але прыйшла. Ці прыйдзе яна ў Афрыку? Пэўна, праблема ўва ўяўленьні белых пра чорных афрыканцаў, якіх белыя й цяпер лічаць людзьмі толькі фармальна.

**Сяргей Радштэйн**

дзядзька Антось у Маскве

# ФАСТ-ФУД

Мы працягваем нашую вандроўку па «краіне, дзе ўсё рэальна». У мінулы раз мы з табой спыніліся дзесьці каля Беларускага вакзалу. Але перад тым як зрабіць некалькі крокаў далей, наперад, трэба трохі падсілкавацца. Можна, канечне, скарыстаць із сабойкі, але, на маю думку, лепей пайсьці куды-небудзь. Часу ў нас з табой сёньня няшмат, дый з натоўпу маскалёў таксама лепей не вылучацца, таму будзем рабіць усё вельмі хутка. Карацей, нас чакае індустрыя маскоўскага «фаст-фуду». Маскоўскі «фаст-фуд», як, напэўна, і ўсе іншыя на прасторах былога СССР, бярэ свой пачатак з бабулек, што на кірмашах гандлявалі нейкімі смажанымі на невядомага паходжаньня алеі піражкамі зь невядомага паходжаньня мясам. Але так было, прынамсі, гадоў дзесяць таму. У далёкім 1990-м рынак маскоўскага «фаст-фуду» пачаў станавіцца больш-менш цывілізаваным — адчыніўся першы «МакДональдз». Зараз, канечне, усё выглядае інакш, таму праблем зь сілкаваньнем у нас ня будзе — трэ будзе толькі абраць тое, што вам даспадобы. Выбар вельмі шырокі.



МакДональдзаў у Маскве шмат. Прапанова ў іх залежыць ад часу: раніцай асартымэнт значна большы — тут нейкія комплексныя сьняданьні, фірмовыя блінчыкі, катлеткі і г.д. Калі спазьніцца, прыйдзецца задаволіцца ўжо знаёмымі гамбургерамі, «чызамі», «фішкамі», біг-макамі, бульбаю, каваю, гарбатаю. Э, бачу, што МакДональдзам цябе ўжо ня зьдзівіш... Табе падавай што-небудзь мясцовае, нацыянальнае, кштатлту менскага «Хуткага Харчаваньня».

Што ж, хадзем тады ў «Расейскае Вістро», але я ж папярэджваў... Нават у параўнаньні з Макам гэта нешта невыразнае з дрэнным асартымэнтам — ну, што, задаволены сваім булёнам «Галіна Блянка»? Хаця піражкі й кулябякі яшчэ нічога, есьці можна.

Вялікім канкурэнтам Маку — «Росьцікс», але гэта для тых, хто любіць курыцу й толькі курыцу. У смажаным выглядзе азадкі даволі смачныя.

Ай, дружа, бачу ў тваіх вачох настальгію па чым-небудзь знаёмым і простым. Хадзем у такім разе ў якую «Чабурэчную» па чабурэкі з пончыкамі — сюд-туд іх смажаць вельмі прафэсійна ды смачна, але даведацца пра якасьць можна толькі пасмакаваўшы... Што, не жадаеш рызыкаваць? А, ты проста заўважыў вагончык «Крошкі-картошкі».

«Крошка» прапануе нам тосты і бульбу, запечанаю з рознымі напаўняльнікамі — ад грыбоў да карэйскае морквы. Бульба, на мой погляд, ня вельмі смачная, ды есьці яе ня вельмі зручна, а тосты калі ўдаюцца, а калі й не.

Зноўку табе не спадабалася... Я ведаю, што патрэбна — звычайны, амаль родны, таму што ў Менску ёсьць нават яго вясковая вэрсія — гот-дог. Як мне стала ведама з даволі надзейных крыніцаў, першы «сабака» прабраўся ў Маскву ў 1995-м годзе, спадабаўся ды прыжыўся. Сваім хвосьцікам ён прыцягвае даволі шмат народу. Адразу сьпяшаюся папярэдзіць — у Маскве яны бываюць розныя. Пачнем з таго, што ёсьць проста гот-догі, а ёсьць фірмовыя, «Стэф». Розьніца паміж імі такая ж, як паміж «двортэр'ерам» і пародзістым шчанём. Сасіскі ў простых курыныя, кетчуп, маянэз, гарчыца — не заўсёды смачныя, але вельмі танна. У «Стэфу» іх таксама некалькі відаў, па-першае, у іх ёсьць нацыянальнасьці: дацкі, француcкі. Ёсьць яшчэ кнакерсы, стоп-топы, мэдыстары, фрыкадэльлеры... Яны адрозьніваюцца памерамі, відамі сасісак і іншымі напаўняльнікамі. Што ж, я бачу, ты ня ведаеш, што выбраць...

Ну, каб ты зусім не памёр з голаду, пайшлі ў мэтро, паедзем да мяне ў госьці.

А ў мэтро такіх як мы чакае ўжо «Мэтро Экспрэс-Буфэт», які вылучаецца тым, што прапаноўвае мэксыканскае бурыта. Павер мне, дружа, што да сапраўднага мэксыканскага бурыта, што гатуюць у мэксыканскіх рэстаранах, гэта, мякка кажучы, ня вельмі падобна.

Дазволь, я прапаную табе пакаштаваць «шавурму» («шаварму», «шаверму» — для розных рэгіёнаў Расеі) — мяса-грыль у лавашы з салатай, маянэзам і кетчупам — ня вельмі дорага, даволі смачна, але трэба ведаць месцы. Зараз яе гатуюць нават у спэцыялізаваных кавярнях — лепей знайсьці такую.

Акрамя таго, можна пакаштаваць розныя там хачапуры, чаму і г.д. Карацей кажучы, маскоўскі «фаст-фуд» даволі разнастайны і прапаноўвае стравы паўднёваамэрыканскае, паўночнаамэрыканскае, эўрапейскае, расейскае кухні, але каўкаская становіцца ўсё больш і больш папулярнаю.

Смачна есьці!

**Дзядзька Антось**

# КАМПАНІЯ З ПАШТАМТУ

## *Яны пахавалі трох сваіх сяброў пасьля трагедыі на Нямізе 30 траўня 1999 году*

*Працяг са старонкі 1.*

У той дзень я езьдзіла з мамай на дачу. Вярнулася дахаты — тут зь сябрамі была Насьця. Я яе пакарміла. І яна пайшла, нават не разьвіталася... А я легла адпачываць, і вось насунулася гэтая навальніца. Усё пацямнела. Я падумала: «Госпадзе! Дзе яна цяпер у такую непагадзь?» Але я ўпала быццам бы ў летаргічны сон. Калі ляжыш, адчуваеш, што табе трэба прачнуцца, але ты ня можаш выйсьці з гэтага сну. І вось гадзінаў да дзесяці я была ў такім паўсьне. Гадзіны дзьве такога зусім незразумелага сну. Пасьля ўжо, калі пачалі тэлефанаваць, гаварыць, шукаць — нейкі імпульс — і тады трое сутак бяз сну. Пакуль шукалі, пакуль прывезьлі яе 31-га ўвечары, пасьля 1-га пахаваньне, памінкі ў кватэры. У памінак ёсьць свае прызначэньне — гэта ня проста зьбіраюцца людзі ў доме, зь якога толькі што вынесьлі на руках памерлага. Людзі дапамагаюць табе ўвайсьці ў дом, пераступіць парог, зь людзямі прасьцей, лягчэй. Сябры з Насьцінай кампаніі першыя пра ўсё даведаліся і прыйшлі да нас. Яны самі труну заносілі і на наступны дзень выносілі. Яны сказалі: «Мы нікога не падпусьцім да яе». Яны самі былі ў шоку, зь іхнай кампаніі Насьцю хавалі першую. І яны пахавалі ўсіх сваіх сяброў, як бы балюча ім ні было, і на сорак дзён пасьля сабраліся... Мяне ўразіла яе кампанія. Насьця была ціхая дзяўчынка, у нас зь ёй былі добрыя адносіны, але яна не хацела мяне засмучаць, знаёміць з гэтай кампаніяй, бо разумела: такое знаёмства мяне ня ўсьцешыць. Але аказалася, што ў яе добрыя сябры. Хлопцы зь яе кампаніі сказалі, што яна перад сьмерцю ачуняла. Страшна, страшна гаварыць пра гэта...»

### Расказвае Вольга Чыкунова (маці Сяргея Чыкунова, нар. 1979):

«Сяргей нарадзіўся 15 жніўня 1979 году, можна сказаць, што нарадзіўся ён наагул мёртвы — яго паўгадзіны ратавалі, бо яму двойчы пупавіна вакол шыі абкруцілася. І тады яго ледзь выратавалі, ён амаль што задыхнуўся. Першыя паўгады Сяргеем займаўся збольшага тата, бо я была яшчэ вельмі слабая пасьля родаў. Першае слова, якое Сяргей сказаў, было «тата». Ягоны дзіцячы ложак стаяў каля нашага. Калі ён прачынаўся ўначы, дык мамы не будзіў, а клікаў толькі тату. Калі Сяргейка крыху падрос, мы сталі сям'ёй хадзіць у паходы ў лес, з начоўкай. Сяргей вельмі любіў прыроду, мог гадзінамі назіраць за жучкамі і матылямі. Але ніколі не забіваў іх, не адрываў крылы, як іншыя дзеці. На вуліцу ён хадзіў мала, усё ў хаце сядзеў. З 11 гадоў пачаў займацца грэка-рымскай барацьбой, удзельнічаў у спаборніцтвах, меў узнагароды. Але ў яго пачаў вельмі пагаршацца зрок, і доктар сказаў, што гэта з-за трэніровак. Са спортам давялося разьвітацца.

Ён шмат чытаў. Набываў беларускія кнігі, яму падабалася беларуская паэзія. Калі быў у шостай клясе, сам паспрабаваў напісаць фантастычнае апавяданьне.

Пасьля школы паступіў вучыцца ў Архітэктурна-будаўнічы тэхнікум.

Напэўна, перад 30 траўня ў Сяргея былі прадчуваньні. У суседнім доме ад раку лёгкіх памёр хлопец Андрэй. Яму было ўсяго 19 гадоў, ён вучыўся ў інстытуце. Яны вельмі сябравалі зь Сяргеем. Мой сын вельмі перажываў, казаў: «Мама, Андрэя забіла мэдыцына — лячылі запаленьне лёгкіх, а атрымалася, што залячылі яго». Я адказвала сыну: «Сынок, у Андрэя было не запаленьне лёгкіх. Яму проста не казалі, што ў яго рак». А Сяргейка казаў мне: «Вось Андрэй памёр, і я памру». Вось гэтак было. А неўзабаве прыходзіць да мяне і кажа, што цыганка яму нагадала хуткую сьмерць. Я яму ў адказ: «Калі верыць усім гэтым афэрысткам на вакзале, дык зусім ня варта жыць. Не бяры гэтую лухту да галавы». Сяргей нічога не адказаў, толькі неяк дзіўна ўсьміхнуўся. Мне здаецца, што ён ўсё ж такі нешта адчуваў ці прадчуваў. Нешта ў ім усё ж такі зьмянілася... Падыходжу цяпер да самага страшнага — 30 траўня. Нічога ў гэты дзень не прадказвала бяды. Усё, як звычайна, толькі што нядзеля, а мне трэ было ісьці на працу (я працую на «Інтэграле»). Я ішла на другую зьмену, а Сяргей — гуляць. Ён ішоў мне насустрач у спартовым «адыдасаўскім» касьцюме, у красоўках... Пагаварылі. Я яму яшчэ сьмехам сказала: «Калі прыйдзеш надта позна, пасьля мяне, то не пушчу дадому, будзеш спаць пад дзьвярыма». Сяргей засьмяяўся і сказаў: «Мама, усё будзе добра, прыйду ў час»... Зусім не прыйшоў. Гэта была нашая апошняя размова. Праз суткі прынесьлі ў труне. Каб я толькі тады магла думаць, што мы зь ім разьвітаемся назаўжды. У той дзень яны з кампаніяй, як заўсёды, сабраліся гуляць у настольны тэніс. Потым нехта з хлопцаў сказаў, што на Нямізе гуляньне. Зь іх кампаніі там было сем чалавек, зь іх загінулі трое. Калі я гаварыла зь яго сябрамі, яны расказалі мне наступнае: «Мы прыйшлі туды толькі ў 19.50. Мы стаялі ззаду і нічога ня бачылі. Пачало бліскаць. Мы вырашылі паехаць на мэтро да сябе ў маленькі дворык». Так яны называлі двор, у якім зьбіраліся — за крамай «Глёбус», там жылі іхныя сябры. Як высьветлілася, чацьвёра былі за тое, каб ня ехаць на мэтро, але Насьценька, Паша і Сяргейка заўпарціліся, сказалі: «Не, мы паедзем на мэтро». Насьценька, Паша і Сяргейка спусьціліся ў пераход першыя. Хлопцы казалі, што яны ішлі, пра нешта размаўлялі, сьмяяліся. Іх накрыла лавіна людзей, і яны ўпалі. Адзінае, сябры заўважылі, што Сяргей спрабаваў выцягнуць і тым самым выратаваць Насьцю. А потым яго самога давялося вышукваць і выцягваць з кучы целаў. Яго знайшоў Цёма, сябра Сяргея — Малы, бо ён маленькага росту, хаця ён старэйшы за іх усіх, яму тады быў 21 год. Цёма казаў: «Я выцягнуў яго зь пераходу і хутка панёс да машыны «хуткай дапамогі». Яго пагрузілі і павезьлі». Я працавала ў другую зьмену, калі мне паведамілі, што адбылося. Мы аб'ехалі ўсе больніцы, агледзелі усе рэанімацыі. А потым нам сказалі: «Калі яго няма сярод жывых, шукайце сярод мёртвых». Калі муж прыйшоў у морг, дык адразу не пазнаў сына. Сяргейка быў увесь чорны ад кровападцёкаў. Страшна было глядзець. Ня дай Бог нікому перажыць тое, што перажылі мы. Страшна было глядзець. Пазнаваць і — не пазнаваць яго. Сяргей ляжаў моцна загрымаваны. Грым проста сыпаўся зь яго. Страшна ўсё гэта было бачыць, быццам бы страшны-страшны сон, які раней ці пазьней так і так скончыцца. Але нічога ня скончылася, наадварот, толькі пачалося. Пачаліся Боль, Страта, Смутак. І канец ім прыйдзе толькі з маім сконам».




**Гэта быў фрагмэнт дакумэнтальнай кнігі, прысьвечанай падзеям 30 траўня 1999 г., падрыхтаванай Праваабарончым Цэнтрам «Вясна» сумесна з арганізацыяй бацькоў дзяцей, што загінулі — цэнтрам сацыяльнай дапамогі «Няміга-99».**

**Запісвалі Паліна Сьцепаненка і Тацяна Сьнітко**

## каляндар

**31 траўня 1950 г.** у Чэхаславакіі пачаўся судовы працэс над лідэрамі апазыцыі, якія змагаліся супраць камуністычнай дыктатуры. Працэс ішоў вельмі хутка, літаральна за тыдзень чэхаславацкае правасудзьдзе вынесла вэрдыкт: сьмяротнае пакараньне. Сярод пакараных была і жанчына, Мілада Гаракава, якая, нягледзячы на жорсткі прысуд, не адракалася сваіх поглядаў. Пакараньне сьмерцю жанчыны шакавала чэхаславацкую грамадзкасьць.

**У 1900 г. 1 чэрвеня** ў вёсцы Несьцеравічы Ваўкавыскага павету нарадзіўся Міхась Забэйда (Суміцкі). У 1918 г. ён скончыў Маладачанскую настаўніцкую сэмінарыю, якая тады была эвакуяваная ў Смаленск, і магчыма стаў бы настаўнікам, але пляны перакрэсьлілі ваенныя падзеі. Сям'я Забэйдаў была ў эвакуацыі ў Сібіры. З 1922 г. Міхась Забэйда ў Харбіне, дзе ў 1929 г. скончыў тамтэйшы ўнівэрсытэт. У тым жа годзе ён дэбютаваў у харбінскім тэатры ў опэры «Яўген Анегін» партыяй Ленскага. І закруцілася музычнае кола: «Ля Скаля» (Мілян), Познань, Варшава. Пад час другой сусьветнай вайны Міхась Забэйда-Суміцкі жыў у Празе, дзе выступаў у Нацыянальным Тэатры, пэрыядычна выяжджаючы на гастролі, у тым ліку і ў Беларусь. Забэйда-Суміцкі быў улюбёным сьпеваком беларускага ксяндза Адама Станкевіча. Вось што ўспамінае пра А.Станкевіча ксёндз Уладзіслаў Чарняўскі: *«Расказвалі, як яго забіралі (НКВД — А.Г.), органы дазволілі яму ўвайсьці ў хату. Паставіў пліту Забэйды-Суміцкага, засьпяваў той, Станкевіч заплакаў і пайшоў».* Суміцкі некалькі разоў дабіваўся магчымасьці вярнуцца пасьля вайны ў БССР, але камуністы дазволу не далі.



**У 1875 г. 3 чэрвеня** памёр францускі кампазытар Жорж Бізэ, які здолеў за кароткае жыцьцё (37 гадоў) напісаць безьліч сымфоніяў, кантатаў, уверцюраў. Але сусьветную славу Бізэ прынесьлі опэры, найбольш вядомая з якіх — «Кармэн» паводле аповесьці Мэрымэ. Опэра Жоржа Бізэ «Кармэн» на лібрэта Натальлі Арсеньневай была адной з самых удалых пастановак Менскай опэры пад час апошняй нямецкай акупацыі. Барыс Рагуля ў аўтабіяграфічнай кнізе «Жыцьцё пад агнём» так апісвае свае ўражаньні ад опэры: *«Мы часта бывалі ў Менску ў опэры зь Юзікам Сажычам. Незабыўныя ўражаньні засталіся ў мяне ад опэры «Кармэн», якую я ўпершыню пачуў па-беларуску. Я назаўжды палюбіў гэтую опэру... Словам, 1941—42 гады сталі залатым годам беларускай культуры. Каб нам яшчэ пару гадоў сапраўднай свабоды, наш народ, наша нацыя хутка адрадзілася б і ўстала нароўні зь іншымі свабоднымі народамі сьвету».* Пасьля вайны «Кармэн» па-беларуску больш ня ставілі. Яе сьпявалі па-расейску, а цяпер — па-францускаму, на мове арыгіналу.

**5 чэрвеня 1900 г.** брытанскія войскі захапілі сталіцу Трансваалю Прэторыю, што ў Паўднёвай Афрыцы. Тым самым англа-бурская вайна скончылася паразай вольналюбівых бураў. Калі пад час вайны Поўначы і Поўдня ў Амэрыцы ўпершыню масава выкарыстоўваліся міны, пад час першай сусьветнай вайны былі апрабаваныя атрутныя газы і танкі, дык англа-бурская вайна «падаравала» чалавецтву бясьпечныя лёзы «Жылет» і канцэнтрацыйныя лягеры. 100 гадоў таму ў Паўднёвай Афрыцы брытанцамі з ініцыятывы вайскаводцы лорда Кічэнэра быў заснаваны першы канцлягер для ўтрыманьня ў ім сэпаратыстаў-мяцежнікаў (так брытанская прапаганда называла бураў, што змагаліся за незалежнасьць). Усяго ў паўднёваафрыканскіх канцлягерах (своеасаблівых фільтрацыйных пунктах) утрымлівалася некалькі тысячаў чалавек: пераважна дзеці, жанчыны, старыя і параненыя афрыканэры. 11 красавіка 1919 г. выйшла пастанова Прэзыдыюму УЦВК Савецкай Расеі «Аб лягерах прымусовай працы», тым самым заканадаўча афармлялася існаваньне савецкіх лягераў, якія ў некаторых раёнах ужо дзейнічалі зь лета 1918 г. У пастанове, у прыватнасьці, гаварылася: «Ува ўсіх губэрнскіх гарадах павінны быць адчыненыя лягеры прымусовай працы, разьлічаныя ня менш як на 300 чалавек кожны».

**У 1125 г.** памёр кіеўскі князь Уладзімер Манамах. **У 1084 г.** ён напаў на Менск, спаліў яго дашчэнту, не пакінуўшы ні чалавека, ні скаціны. Другі раз Менск быў спалены Манамахам у 1119 г.

Каля **1575 г.** нарадзіўся Аляксандар Юзаф Лісоўскі, вайсковы дзяяч Рэчы Паспалітай. Аляксандар Лісоўскі вядомы тым, што стварыў лёгкую нерэгулярную кавалерыю, узброеную шаблямі, рагацінамі, лукамі. Лісоўчыкі вызначаліся незвычайнай рухомасьцю і баяздольнасьцю і разам з тым нечуванай жорсткасьцю і сквапнасьцю. Лісоўскі разам са сваімі падначаленымі далучыўся да войска Ілжэдзьмітрыя II, беручы разам зь ім удзел у паходзе на Маскву. Удзельнічаў у аблозе Масквы і Троіца-Сергіевай Ляўры. Пасьля забойства Ілжэдзімітрыя II Аляксандар Лісоўскі — у войску караля Жыгімонта Вазы, потым «лісоўчыкі» ў войску імпэратара «Сьвятарнай Рымскай імпэрыі» Фэрдынанда III душылі чэскае паўстаньне 1620 г., ваявалі супраць войскаў Асманскай імпэрыі. У 30-х г. XVII ст. войска лісоўчыкаў было распушчана.

**Алег Гардзіенка**

# ПАРОЛЬ «НЯМІГА»

*Асьцярожна, дзьверы зачыняюцца. Наступная станцыя — Няміга.*



Фота IREX-ProMedia

***Гадавіна страшнае катастрофы 30 траўня ператвараецца ў імгненьне праўды для нашае сьвядомасьці. Менск зноў на Нямізе. Менск спрабуе чарговы раз пераежыць кашмарныя падрабязнасьці й пачуцьці — і справа тут ня проста ў масавым псыхалягічным рэфлексе. Насамрэч, беларуская грамадзтва дагэтуль не асэнсавала, не спасьцігла Нямігі:** як гэта магло здарыцца, чаму менавіта тут і цяпер і што гэта значыць. **Сярод моладзі «Няміга» ўвогуле зрабілася паролем няўцямнага болю: юнакі й дзяўчаты, пачуўшы яе імя, бездапаможна нямеюць і губляюцца.***

## Пакаленьне Нямігі

Так многа моладзі на вуліцах Менску, проста жах. Ходнікі й транспарт, крамы й кавярні, паркі й кінатэатры запоўненыя пакаленьнем, народжаным у СССР. Іх нараджалі хутчэй і паболей: будуць жыць пры камунізме, кожнаму кватэру да 2000 году, дагнаць і перагнаць Амэрыку. Апошні, застойны дэмаграфічны бум — каб пасьпець перад перабудовай, перад Чарнобылем, перад незалежнасьцю. Наша роднае пакаленьне — тая самая моладзь, якая ўвесну 96-га выйшла на плошчы й адстаяла Беларусь, а сёньня масава хлынула ў недзяржаўны сэктар; тая, якая голіць галовы для скінгедаўскіх і эрэн'ешных брыгадаў, ніяк не нап'ецца піва й не перастане глушыць гарэлку. Пакаленьне бэпэсэм, якое пацяху колецца й блатуе, спрабуе рабіць бабкі і марыць пра «Беларусь — у Эўропу», у сэнсе зваліць на Захад. Пакаленьне, якое табунамі блукае па вуліцах, разглядаецца ў пошуках відовішчаў, здрыгаецца ў задаволеным рогаце й балдзее ад паўнаты жыцьця. І вось, пад час чарговага канцэрту, у дождж, гэты малады й дужы натоўп, падпіты і ўзбуджаны, самы сок, ходу абвальваецца ў падземны пераход мэтро. І душыць, душыць сам сябе, у стогнах, сьціснуты болем, душыць сорак юных дзяўчат і трынаццаць хлопцаў.

У эпіцэнтры зноў апынуліся тыя ж, хто і на маніфэстацыях 96-га, і ў Сьветлагорску, і ў БПСМ, і ў Маладым Фронце. Гэта адно пакаленьне — *нашыя*, такія, як мы з табой. Тынэйджары эпохі незалежнасьці, якія на заходніх вятрах ператвараліся зь дзяцей у выпускнікоў, набіраліся сілаў з разбурэньнем імпэрыі зла, якія ўпершыню пасьля застойнага ўдушша па-сапраўднаму вольна марылі і так хацелі ў нешта *верыць*...

Спустошаныя душы, поўныя свабоды — яны выбухаюць, як паветраныя шарыкі. Нямногія адчулі пад нагамі родную зямлю, нямногія ўбачылі па-над сабою Бога. Большасьць не глядзела ані пад ногі, ані ў нябёсы. І, калі пацямнела, калі разгарнуліся дымныя хмары й грукнула навальніца — усе так і пайшлі, натоўпам, подбегам, падштурхоўваючы адзін аднаго, рушылі масаю плечаў, шыяў і локцяў туды, дзе за прычоскамі й патыліцамі ўжо чакаў глыбокі падземны пераход.

## Удар у самае сэрца

У *Менску няма месца глыбейшага*. З глыбейшай, чым у Нямігі, гісторыяй, зь безданьню археалягічных пластоў, з пагружэньнем у самую старажытнасьць. Нараджэньне гораду, славутае «Слова аб палку Ігаравым», дзядзінец, Менская брама. Ніжні рынак, галоўная шматлюдная плошча ў Сярэднявеччы, жыцьцё аж кішэла. Рака Няміга ў паводку выходзіла зь берагоў, зьбіраючы ўвесь бруд, сьмецьце й нечыстоты, і залівала цэлыя кварталы з падваламі — брыдкая жыжка тхнула тут тыднямі. Нутро... І толькі падумаць, галоўныя храмы краіны навокал!

Калі экскаватары пракладвалі каўшамі мэтро, быццам косьці, трушчылі пахаваныя векавыя бярвеньні, калі ўзрывалі кладку кляштараў і выграбалі з таемных падземных сховаў кнігі XVII стагодзьдзя, з каранямі выварочвалі страшныя менскія скарбы — Беларусь здрыгалася. Гэта было спусташэньне чагосьці сьвятога — у гораду вымалі душу. Талакоўцы й Пазьняк голымі рукамі ішлі на бульдозэры, інстынктыўна супрацiўлялася інтэлігенцыя, але катлаван аграмаднае раны раскопвалі, нягледзячы ні на што. Увесь немы боль, уся немасьць гісторыі, уся глыбіня забыцьця й абыякавасьці ўвасобіліся ў мёртвай, чорнай, сырой труне станцыі, замураванай халодным каменьнем. Мёртвая немасьць, мэтро Няміга.

*Немае пакаленьне* 30 траўня ня мела роднае мовы. *Немае пакаленьне* Нямігі ня ўмела каяцца і маліцца Богу. Немасьць беларускае моладзі была невыносная. Даруйце мне, мае любыя, міленькія дзяўчаты і хлопчыкі — але гэта праўда: *немае пакаленьне* не магло пазьбегнуць Нямігі.

Пад дажджом, ледзь стрымліваючы сябе з разьбегу, ледзь пасьпяваючы перабіраць сьлізкія гранёныя прыступкі, дружна, моўчкі дрыжэлі й біліся сотні юных сэрцаў. Глухое падзем'е паглынала натоўп з шумам дыханьня й ліючае вады. Ніхто не пасьпеў і войкнуць: нечаканы збой кроку ўнізе, шчытавое загараджэньне й імгненная п'яная бойка на самым падножжы перасмыкнулі першыя шэрагі адначасова, як падземны ўдар. І толькі тады апошні, здушаны крык, як выдых, як выбух душы ад удару ў самае сэрца, вымкнуў з глыбіняў і пачаў напаўняць усю немую яму. Страшнае сіпеньне выцiснутага зь дзесяткаў лёгкіх паветра, жаночы віск і зблажэлыя, да ванітоўнага стогну, галасы... Позна. Ззаду ня чулі, напіралі, мкнулі да правалу, і ў крык падалі тыя, хто ўжо спыніцца ня мог.

Няміга сапраўды гахнула грамадзтву проста ў сэрца. У самае трапяткое, гарачае й напружанае, у самае юнае і сакавітае, дзе буйна пульсуе жыцьцё. Згадайце — які быў моцны й шчымлівы боль. Калі ўсе пачулі, калі толькі ўявілі: шаснаццацігадовыя, ласкавыя і ўсьмешлівыя, дзяўчаткі... Пятнаццацігадовыя хлопчыкі з жывымі вачыма... У агульнай магіле, сотні, са стогнамі цiснуць і душаць адзін аднаго. Паміраюць разам, у лічаныя хвіліны, ад удушша брацікі й сястрычкі, дачушкі й сыночкі, сяброўкі й каханыя — гэта было настолькі страшна й пранізьліва, што проста выварочвала душу.

Яны загінулі дзеля таго, каб мы нарэшце да дна жахнуліся. Каб дайшло да кожнага, чуеш. Каб заныла ў грудзях у нас з табою. Ахвяра за наш грэх, нашую абыякавасьць і немасьць — маю, тваю, ягоную.

## Рыданьне нябёсаў

Ты спытаеш, чаму Бог не спыніў Нямігі.

Удыхні на поўныя грудзі. Госпад Бог даў нам *свабоду*. Вольная воля — галоўнае, чым Творца надзяліў чалавека, нашае найвышэйшае дабраславеньне й найвялікшае пракляцьце. Чалавек вольны *выбіраць*. Ты можаш ісьці на мітынг ці на канцэрт «Манга-Манга», можаш проста слухаць музыку, а можаш піць да ўпаду піва, можаш займацца распустай і лаяцца матам — а можаш стрымлівацца. Урэшце, ты можаш верыць у Бога — ці як сабе хочаш: цябе прымушаць ніхто ня мае права ды й ня будзе. Але памятай адно: калі, піхаючы сабе падобных, ты пачынаеш адчуваць, як сьціскае і трушчыць цела, не дае пікнуць неадольная сіла, калі дапінаеш, што *усё*, выйсьця няма, і ад страху сьмерці цямнее ў вачох — гэта ўжо *вынік выбару*. Гэта тое, што мы ўвесь час выбіралі. Гэта пекла, да якога мы набліжаліся паступова й няўхільна, крок за крокам.

*Людзі душылі сябе самі* — небу заставалася толькі рыдаць па-над імі. Плач дажджу заліваў наваколье. У падзем'і, у пакутлівых сутаргах, прыдушаныя аднагодкамі, паміралі падлеткі.

Колькі разоў па дарозе на станцыю мэтро ўваччу блікавалі залатыя крыжы Сьвята-Духава Сабору! Але зьміргнулі — і ў пераход. Колькі разоў раптоўна, быццам нешта згадаўшы, мы спыняліся ў цэнтры гораду — зрываўся бой званоў на Катэдры! Але праз сэкунду зноў набіралі хаду. Колькі разоў дагэтуль даводзілася назіраць, як сьціжмы першакурсьнікаў-эвангелістаў на пляцформе тае самае Нямігі падхоплівалі раўналеткаў каля вагонаў. Ё-маё, ды ну вас...

А 30 траўня беларускія храмы глядзелі скрозь дождж у правал Нямігі. Сьлёзы і кроў сьцякалі па сьценах.

## Пакаяньне Нямігі

Небясьпечна пагружацца ў глыбіні Нямігі. Нельга ўвесь час рухацца ўніз, у пераход, у цемру. Адтуль тхне сьмерцю. Так, у прадоньне, асуджана пазіралі тыя, хто міжволі пасоўваўся ўніз 30 траўня, хто нават падумаць ня мог, каб спыніцца, і спаўзаў, пакідаючы сьляды пальцаў на столі. Зараз, разглядаючы надпісы, твары й адлюстраваньні, людзі сыходзяць да самага змрочнага дна, зацінаюцца ад няўцямнага стаху і стынуць. Ад прыцягненьня бездані точыцца галава і ў думках толькі — няўжо... навошта... а як жа так...

Азірнецеся. Падымеце вочы на *лесьвіцу ў неба*. Па прыступках Нямігі не сыходзіць трэба, а *падымацца* ўгару. Так, каб з кожным крокам сьвятлела, каб прыбаўлялася паветра, каб кожны здымак і надпіс клікаў яшчэ вышэй, да вышыняў. Падымайцеся. Гэта ня лёх і не закладваньне ў магілу — гэта *пад'ём* угару. Пакутны, зьнясілены, праз дурны напор і п'яны натоўп, скрозь боль — але гэта *пад'ём*. У жыцьцё: у горад, дзе ходзяць людзі і дзе так многа моладзі.

На сьценах Нямігі — тут Саша, тут Іра, там Лена... Але паўсюль — крыжы й абразкі. Імя Хрыстова, пакаянныя словы. Усё проста: лесьвіца ў неба на 40 прыступак — гэта ўваскрасеньне зь мёртвых. Божая вечнасьць. Яшчэ раз, не апускайце вочы перад Нямігай. Падымайцеся.

Ня ведаю, як каму — мне *моладзь Нямігі* на вуліцах трапляецца ўвесь час. Бледныя твары зь ценем удушша, з вачыма, якія нічога не выражаюць — такое ўражаньне, што ўсе яны толькі й чакаюць дажджу на канцэрце. Бывае цяжка казаць гэта адурэлым ад працы ці п'яным, зьнясіленым сумятнёй ці атупелым ад ежы, але я згадваю здымкі трупаў, зваленых упокат па моргах, і прашу: мае мілыя, калі ласка, не паміраймце. Ня трэба ў правал Нямігі. Пастарайцеся ачомацца, удыхнуць паветра, узьняць вочы да Бога — паверыць і палюбіць.

Год мінуў. Дзяржава, колькі ёсьць сілаў, забываецца пра «пяцьдзесят тры рубцы». Апазыцыя выдае кнігу. *Хто вінаваты*? Шукаюць. Мала каму хочацца прызнавацца, што *самі* і асабіста кожны. І вось Няміга, 30 траўня 2000 году: сьведкі ды сваякі, ды яшчэ тыя, каму гэта сапраўды ў сэрца трапіла. Маўчым.

Зноўку *немасьць*. Няма словаў. Няма пакаяньня. На сьвята пад Новы год на Кастрычніцкай плошчы душыліся зноўку: білі бутэлькі. Усім народам пёрлі ў падзем'е і ўжо пачыналі зьдзічэла вішчаць дзяўчаты... Нема. Адзіны выбар: альбо ў нас наперадзе *пакаяньне*, альбо чарговае падзямельле і яшчэ болей болю.

*Госпадзе, калі ласка, даруй нам нашую абыякавасьць, няўважлівасьць і маўчаньне! Даруй нявер'е і рабства граху, даруй бясьсілую злосьць! Ачысьці целы нашыя, асьвятлі розумы нашыя, успалымяні душы — і хай спаўніцца ў нашай краіне воля Твая! Хай будзе любоў Твая, і азорыцца неба ласкай Тваёй па-над Беларусяй!..*

Пакуль такі пароль для нямногіх. Для тых, хто прымае Хрыста і любіць сваю краіну. Тых, каму *баліць* ня толькі раз на год і хто ня можа далей назіраць, як жыўцом прападае, гіне, душыцца нашая моладзь. Пароль Нямігі адчыняе сутарэньні сёньняшняе Беларусі й глыбіні пекла, адмыкае вушы тым, хто ня чуе, і вядзе па прыступках угару. Прыслухайцеся, яго штодня паўтараюць стакроць для кожнага.

Асьцярожна, дзьверы зачыняюцца. Наступная станцыя — НЯМІГА.

**Павал Севярынец**


Фота Андрэя Лупнейскага

вясковы лірнік

# НАВАСПАСК

Наш самаход мэлянхалічна пранізваў ёдкае празрыстае паветра, звыкла сьпяшаючыся ладнаю вузкай шашою, гэтым разам са Смургоняў у Крэва. Бялявая прыдарожная шыльда з назовам вёскі мільганула праваруч ды, напэўна, забылася б праз колькі хвіляў, але... Самаход збочыў і спыніўся. Сьціх рухавік, мы выйшлі. Далёка ля кругавіду грувасьціліся цяжкія шэрыя хмары, халоднае сонейка раз-пораз хавалася жаўтляваю смугой. Ад першага кроку сэрца ахінулася дзівосным непаразумелым пачуваньнем, маўклівай таямнічай атмасфэрай незнаёмага селішча.

Сьціплыя хаціны ды хляўкі цягнуліся шчыльным падвойным ланцугом, заціснутыя паміж пляскатым насыпам шашы ды стромкім схілам грывастага ўзгорку. Але вочы міжволі падніmaліся вышэй. Над шэрымі дахамі буданоў ды жоўтымі паляніцамі дроваў, над шурпатымі латкамі ральлі ды пахіленымі размаітымі платамі, нібы падвешаныя ў паветры, навісалі зьнявечаныя часам, густа чырвоныя муры колішняе бажніцы. Гады не захавалі ані звонку, ані знутры хаця якое архітэктурнае драбязы. Няроўныя, нібы выскубаныя, сьцены зьмярцьвела й тужліва паглядалі проста ў неба. На нейкі момант іхны шчарбаты прастакутнік падаўся агромністым спарахнелым шкілетам невядомае дагістарычнае жывёліны. Вірлівая плынь часу зьнішчыла даўнейшую сакавітую вычварнасьць, засталася адно маўклівая нерухомая веліч магутнага сівога барока...

Наваспаск ляжаў, быццам у нейкім містычным здранцьвеньні. Ім дыхалі пустыя, бы вымерлыя двары, яно чулася ў шаргатаньні халоднага празрыстага ветру, яго прамаўлялі пабляклыя ручнікі на драўляным васьміканцовым крыжы пасярод каменнай скрыні падмурку колішняе царквы, што прытулілася ўсяго крокаў у трыццаці ад стараветнага барочнага касьцёла. Чырвоныя касьцёльныя муры над шэрым плячам царкоўнага фундамэнту ўяўляліся сівым шчарбатым дзедам, што схіліўся над самотнаю магілай маладзейшае жонкі...

Адзіным чалавекам, якога мы ўсё ж стрэлі, была клапатлівая паджылая цётка, што раптоўна ўзьнікла немаведама адкуль. Яна сказала, што касьцёл дужа стары ды разбураны яшчэ за царом, напэўна, у першую ўсясьветную. За саветамі людзі самі разьбіралі яго на цэглу, а зараз робяць у ягоных ацалелых пакойчыках загарадкі для цялятаў. Сказала й зьбегла...

Дзьве тлустыя белыя гусі падазрона высунулі з хлеўчыка свае дзюбатыя галовы ды зноў зьніклі ў цемры. Чорны, як смоль, сабака, што спаў на высокім стозе сьвежага сена, узьняў галаву ды бязгучна забрахаў.У гонкай цішыні было толькі відаць, як мерна адкрываецца ягоная пашча. На схіле ля самага падножжа мураванае бажніцы крывавымі кроплямі гарэла шыпшына... Наваспаск.

Андрэй Захаранка



дыскаграфія

# СУЧАСНЫ ЎКРАІНСКІ РОК-Н-РОЛ—2

**Толькі мы напісалі пра сучасны ўкраінскі рок-н-рол, як у Менск завіталі «Океан Ельзи» і «Воплі Відоплясова». Прыіхалы, і ўсё пахахляцку сьпяваюць. І добра сьпяваюць! Можа зноў чаго наварожым?**

**Колькі кароткіх рэцэнзіяў на касэты з запісамі ўкраінскіх груп і салістаў, выдадзеных у розныя гады, дапамогуць, спадзяемся, больш арыентавацца, хто ёсьць хто ў тамтэйшым рок-н-роле. Калі хто хоча нешта з гэтага купіць, тэлефануйце (017) 249-08-88 (Віталь Супрановіч) або пішыце а/с 5, Менск, 220085.**

**«ТАНЕЦЬ ДУШ». Юлія Лорд.** (р) 1998.

Юлія Лорд — гэткая тэхнадзяўчына, якая сьпявае гэткія ж тэхна-песенькі, падобныя да кіслых дзічак, напоўненыя сэмплямі ды іншымі штучнымі канструкцыямі ды прыдумкамі. Зразумела, што ў такой стылістыцы мэлёдыі заўсёды няшмат, і спн.Лорд тут не вынятак, бо асноўная прыкмета яе песень — гэткі псыхадэлік выключна для дыскатэк. Са сцэны опэры, прынамсі, такое не прагучыць, дый дома слухаць «Танець душ» мала каму пазычыш. Модная музычка, аднастайная, выключна для маладых, тых, хто над сэнсам жыцьця задумваецца пакуль або ячшэ ня хоча, або ўжо ня можа. Таго, хто шукае ў музыцы найперш музыку, гэты альбом не зацікавіць.

**«А ВЖЕ РІЗДВО». Група «Дивні».** (р) 1998.

Вельмі нязвыклая праграма! Па-першае, яна складаецца з выключна калядных мэлёдыяў. Падругое, усе яны — аўтарскія, прычым збольшага напісаныя ўдзельнікамі гэтага мужчынскага квартэту да вясёлых калядных сьвятаў. Далей — проза жыцьця і прафэсіі рэцэнзента. Творы тыя, на жаль, малавыразныя, а часам дык проста ніякія. Да таго ж гэты альбом шмат у чым «гасіць» даўнюю легенду пра незвычайных сьпеўных здольнасьці украінцаў. Сьпявае група «Дивні» проста на дзіва слаба. Бадай, найбольшае расчараваньне сярод усяго, што паслухаў з украінскай музыкі за апошні час, хоць задума вельмі неблагая. Не атрымалася.

**«ПТАХИ». Група «Скрябін».** (р) 1996.

З трох касэтаў групы, што трапіліся мне, гэтая — найбольш даўняя. Проці пазьнейшых альбомаў тут музыка яшчэ досыць простая, без электронных выкрунтасаў і мудрагелістых гукавых эфэктаў. Украінскі варыянт *Depeche Mode*. З той розьніцай, што з часоў «новых рамантыкаў» у Эўропе мінула ўжо больш гадоў, чым, здаецца, ва Ўкраіне. Звыклая прыкмета «Скрабіна» — наяўнасьць у адной праграме некалькіх міксаў адных песень. З тых, што маюцца тут, найбольш прывабіў мікс песьні «Змучений» пад назваю «Пиво як вода». Дый то, бадай, дзеля тэмы.

**«ТАНЕЦЬ ПІНГВІНА». Група «Скрябін». (р) 1998.**

З часоў праграмы «Птахи» склад групы паменшыўся на чвэрць: «Скрябіна» пакінуў Саня «Скряба» Скрябін — мусі быць, яе заснавальнік. Але на зьмену ў гучаньні групы паўплываў, безумоўна, ня толькі гэты факт, але й час. На гэтым альбоме зноў шмат міксаў (той жа песні «Змучений», напрыклад), але музыкі засталіся верныя абранай некалі стылістыцы: гукавыя эфэкты ўсё больш заступаюць сабой мэлядычную аснову песень. Тут зьвяртаюць увагу кампазыцыя «Най будэ дощ» (*piano remix*) і ўласна загалоўная песьня, зробленая і, галоўнае, напісаная проста ўдала. Разам з тым ня думаю, што яна сваралася ў разьліку на найбольш пінгвіннае радыё Менску: каб тое радыё заўсёды было на ўзроўні тае песьні...

**«ХРОБАК». Група «Скрябін». (р) 1999.**

Дызайн альбомаў групы «Скрябін» нашмат больш арыгінальны, чым уласна музыка. Тут часам праз гукавыя эфэкты асновы песень наагул не чутно, тэксты, як і раней, можна аднachасова ахрысьціць і як філязофію, і як прафанацыю. Выдатна разумею, што прыхільнікаў у такіх групаў ніколі не бракуе, і тое натуральна. Я ж належу да тых, хто лепш любіць слухаць музыку, якую робяць музыканты, а не кампутары, у аснове якой мэлёдыя, а ня голы, хоць і расквечаны, рытм. Такую прадукцыю мне асабіста слухаць сумна. Адно што трэба нязлым словам згадаць песеньку «Ня трэба».

**«ЗНОВУ ЛЮБЛЮ». Марія Бурмака. (р) 1998.**

Марыя — такая маладзенькая, прыгожанькая дзяўчына, якая шчэ й сьпявае. Відаць, мала ёй усяго таго, што яна й так мае. На першым баку касэты песьні збольшага нейкія такія... ня надта запамінальныя. Мо таму, што тут была пастаўленая мэта дасягнуць нейкага там... расейскага... можа, эўрапейскага ўзроўню — ня ведаю. Другі бок значна цікавейшы: тут проста Марыя выразна ўзяла бок стылісткі а ля фольк, што пайшло ёй на карысьць. Удалыя песьні «Тиха вода, рання роса», «Пролітала стрілою». От каб увесь альбом быў зроблены так, як ягоны другі бок! Тут бы Марыя Бурмака тады і Расею... і Эўропу... ззаду пакінула б.

**«ПІКАРДІЙСЬКА ТЕРЦІЯ». (р) 1996.**

Мяркуючы па тым, як неахайна выдадзены альбом, і па адсутнасьці назвы, гэта, калі не пірацкая копія, дык дэбют «Тэрцыі» ў гуказапісу. Напісаць тут можна шмат. Найперш я доўга ламаў галаву, што азначае скарачэньне УНП. Здагадаўся: украінская народная песьня. Але абурыўся: «Туман ярам» («За туманам») ці «Горіла сосна» («Гарэла сосна») — гэта ня толькі УНП, прабачце, але яшчэ й БНП! Дарэчы, аранжаваньне другой УНП вельмі ўдалае. Але на фоне таго, як сьпяваюць УНП хлопцы з кіеўскага «Мэн саўнд»-у, «Тэрцыя», на жаль, блякне. Адзін бок касэты — пераважна папуляр, не без знаходак. Так, у песьні «Богдан» вынаходліва ўжываецца цытаты з *Queen*. Другі бок — амаль адны тыя самыя УНП. Запіс няроўны, здаецца, зробленны на канцэрце, а, каб пачысьціць яго ў студыі, грыўняў, відаць, забракла.

**«ВУЛКАНІЗАЦІЯ». Група «Іжак».** (р) 1998.

Не, і ў беларускай (так званай — агаваруся!) папулярнай музыцы я час ад часу сустракаў нешта такое — амёбнае па стылістыцы і зробленае невядома зь якой мэтай. Слухаў-слухаў, паліў-паліў шэрае рэчыва, а так і не зразумеў, што да чаго. Мо мая прыроджаная неадукаванасьць вінаватая. Бо на касэце горда напісана: *Best Music*. Застаецца толькі спадзявацца, што я да татальнай «вулканізацыі» не дажыву. Музычны «Бум-Бамліт», толькі замiж тазіка — інструмэнты. Збольшага ўдарныя.

**«ЛЬВІВСЬКИЙ СТЬОБ». Віка.** (р) ?

Люблю такое. Нічога надуманага, а ўсё так, як і адчуваеш у гэты момант. Вясёлы альбом, выдадзены, як падказвае інтуіцыя, недзе гады два-тры таму. Віка мае моцны голас і добра ўмее ім карыстацца. Што да сьцёбу, дык ён сапраўды прысутнічае як у музыцы, так і ў тэкстах. Нешта такое рок-н-рольна-агульнае з братамі Гадзюкінымі, толькі што тут на першым пляне — жаночы голас. У песьнях часам панамяшана шмат (элемэнты панку, рэпу і г.д.), але яны ўспрымаюцца лёгка і прыносяць часам нават шчырае задавальненьне. На другім баку касэты запісана колькі рок-н-рольных стандартаў, аўтарамі музыкі якіх сьціпла названыя нейкія *Golden Oldest*. Гэта, зразумела, каб сьвет капіталу бяз аўтарскіх застаўся...

**«ТИША І ГРІМ». Сестри Тельнюк.** (р) 1998.

Пры ўсім жаданьні, нават зважаючы на прывабны выгляд сястрычак Лесі ды Галіны, не магу аднесьці гэты альбом да этапных. Тут запісаны лірычныя ды філязофскія творы пра радзіму, пра родную прыроду, месячык чалавека ў ёй. Затое плюс: сьпяваюць пра радзіму сёстры без таго ілжэпатрыятычнага надрыву, на які пакутуюць многія нашы ды ўкраінскія змагары за сьветлую нацыянальную будучыню. Яны, адчуваецца, артысткі, а не агітаркі. Тут табе можа быць, як у песьні «Мінае час», і аранжаваньне ў джазавай стылістыцы са «смачным» сола на флюгельгорне.

**«КЛУБ ШАНУВАЛЬНИКІВ ЧАЮ».** (р) 1996.

Гарбату люблю. А вось лячыцца музыкай з клубу аматараў гарбаты... Месцамі гэта дастаткова цікавая творчасьць, што грунтуецца, без сумневу, на дасягненьнях сусьветнага нью-эйджу. Што само сабою цешыць: хто ў нашай Беларусі такой музыкай займаецца? Не згадаеш! А тут цэлы клюб! Уся музыка пабудаваная на спакойных, засяроджана-мэлядычных тэмах з ужываньнем шматлікіх, як і належыць жанру, гукавых эфэктаў натуральнага паходжаньня — грымотаў навальніцы, шэпту дажджу, пошуму ветру. Трымаючыся ў асноўным такой вось лагоды, музыканты КШЧ часам выходзяць і на рокавую стылістыку. Галоўны недахоп праграмы — палкае жаданьне аматараў гарбаты сказаць усё адразу: часам кампазыцыі проста перасычаныя тым, чаго магло і ня быць.

Хахляняты слухач

***27 траўня споўнілася 100 гадоў з дня нараджэньня Ўладзімера Жылкі. Ягоны лёс, кароткае жыцьцё і вершы дазваляюць убачыць у Жылку праўдзівага спадкаемцу Максіма Багдановіча. Хіба што ў Багдановічавым жыцьці болей расейскіх адрасоў, а ў Жылкавым ёсьць яшчэ і Прага, вучоба ў Карлавым унівэрсытэце. Праўда, памёр Жылка ўсё ж у Расеі, куды быў сасланы за свае перакананьні, — у далёкім горадзе Ўржуме, дзе пакуль што не ступала нага дасьледнікаў ягонае творчасьці. Адно вядома, што там захаваліся магіла паэта і дом, у якім ён жыў. Не ўдалося дабрацца да Ўржуму і аўтарам «Нашае Нівы». Сяргей Харэўскі шукаў Жылку ў шуфлядзе ўласнага пісьмовага стала — там мусілі захоўвацца фотаздымкі некалі забароненых заходнебеларускіх выданьняў зь вершамі паэта. А Зьміцер Бартосік зьезьдзіў на радзіму Жылкі — у вёску Макашы пад Нясьвіжам.***



# КРЫВІЦКАЯ МЭККА ПАЭТА

Сяргей ХАРЭЎСКІ

Мы з прыяцелем друкавалі фотаздымкі, шчыльна зачыніўшыся ў ванным пакоі. У сьвятле чырвонае лямпы ўсе рухі здаваліся запаволенымі й значнымі, нібы ў кіно. Мы рабілі здымкі старонак колішняга віленскага часопіса «Студэнцкая Думка», 25-ты год. Напрыканцы савецкіх часоў багата нязнанай нам, маладзёнам, літаратуры даводзілася ўзнаўляць менавіта гэткім спосабам — з фотастужак, адзьнятых то ў спэцсховах, то ў нейкіх прыватных зборах.



Пакрысе ў растворы праяўляліся літары. І ў чырвоных промнях зьявіўся верш.

*Калі сябры нас гудзяць згубаю*
*І ворагі прарочаць скон,*
*Тады к Табе, о Вільня любая,*
*прыводзяць згадкі у палон...*

Гэта быў верш Уладзімера Жылкі. Я мала ведаў тады пра Жылку, мала пра беларускую Вільню. Але гэтыя вершы адразу западалі ў душу й лягалі дакладна там, дзе й мусілі быць. Разглядаючы падсохлыя ўжо, крыху карабатыя здымкі ў дзённым сьвятле, хацелася зноў і зноў чытаць менавіта Жылкаву паэзію. У ёй паўставала цалкам экзатычнае, неверагодна прыгожае места: «...і маліцьвенна ўзносіць готыка да неба тонкія шпілі». А з другога боку — места сваё, роднае, наша. У гэтых двух вершах пра Вільню — цэлая галяктыка. Нязьведаная, нявычутая, непрадуманая мною. І зусім дзіўна гучаў у савецкі час радок: «Ў жыдоўскім гета — дробязь, клопаты; і аб Сьвёне сны ў туман». Калі мне, нарэшце, давялося самому пацёгацца па Вільні як сьлед, дык першыя ж радкі, якія прыйшлі на памяць каля касьцёла Сьвятой Ганны, былі Жылкавы:



*Сьвятая Ганна — сьпеў,*
*напеўнасьцю*
*Салодка ўзрушана ўсягды;*
*А поруч зь бізантыйскай*
*пэўнасьцю*
*Царква прысела ля вады.*

Той, хто ведае віленскую тапаграфію, згодзіцца са мною, што лепш і дакладней не апішаш гэтага кутка над рэчкай Вялейкай. Літаральна ў чатырох радках усё і сказана. Усё і дасюль на тых самых месцах: вялізарны букаты Прачысьценскі сабор і чырвона-чорны гатычны касьцёл. Наагул Вільня засталася амаль цалкам такой, якой была за Жылкам:

*І плюск Вялейкі, хвалі ветрыка*
*Люляюць Бэрнардынскі сад,*
*І мільгаціць праз ноч электрыка*
*Ў зацёмкаў меских шалы чад.*

Не адшукаўшы ў Жылкі нічога блізкага па духу пра Менск, у якім ён здолеў пажыць таксама, я знайшоў гэтаму вытлумачэньне ў Антона Луцкевіча, у ягоным артыкуле за 1918 год, у газэце «Гоман»:

«Тут (у Вільні) складзены вялізныя скарбы беларускай культуры, незвычайна багатыя помнікі нашага старога пісьменства. Тут здаўна беларусы закладалі й закладаюць свае навуковыя ўстановы. І калі думка беларускага палітычнага дзеяча зьвяртаецца сёньня да Менску, то думкі вучоных плывуць да Вільні». Дадам ад сябе, што не толькі вучоных, але й паэтаў. Гэткіх, як Жылка. Луцкевіч падсумаваў свой артыкул гэтак:

«Вільня ці Менск?» Гэтае пытаньне, бясспрэчна, разьвяжа толькі будучыня. Але, здаецца, разьвязка тут можа быць толькі кампрамісная: Вільня пры ўсялякіх варунках павінна абслугоўваць абодва народы, для якіх гэтае места было калыскай у часах народзін іх культуры».

А вось жа для Жылкі гэткага пытаньня няма наагул. Ён радыкальна сьцьвярджае, што і як мусіць быць: «О, места роднае, ханае, цябе залье крывіцкі рух!» Ад гэткіх словаў у мяне, напрыканцы 80-х, дух займала! Сярод безьлічы віленскіх вершаў цяжка знайсьці нешта ўровень гэтаму. Па экспрэсіўнасьці й фундамэнтальнасьці. У паэзіі пра Менск гэткай экспрэсіі не было. Яна была непатрэбнаю. Менск даўно ўжо быў залітыя, ці то тым самым рухам, ці то чымсьці іншым.

Падхапіўшы Луцкевічаву мэтафару пра Вільню як Мэкку, а Менск як Мэдыну, Жылка гукаў да паходу. У гэтай мэтафары ёсьць яшчэ адзін неабходны пэрсанаж — постаць Прарока. Яго прагна імкнуўся разгледзець паэт:

*Між тых, хто ўцяклі да Мэдыны,*
*Ці бачыш, ці бачыш яго?*

Прарок не прыйшоў. Але паэтава прароцтва, як і прароцтва Луцкевіча, засталося. За тыя гады, што праміналі, нішто не замяніла беларусам Вільні. І нішто не адменіць тых прароцтваў.

Так ці інакш, менавіта з тых фотаздымкаў «Студэнцкае Думкі», ад паэзіі Жылкі, я сам атрымаў, бадай найбольшы зарад таго, што завецца беларушчынай. Зь яе нескончальнаю вераю ў прышэсьце нашае ў крывіцкую Мекку. Днямі шукаў-шукаў тых здымкаў, гэтак і не знайшоў. Зрэшты, я ведаю тыя вершы на памяць. ■



# РАДЗІМА, МАКАШЫ

Зьміцер БАРТОСІК

Удзячная гэта справа — знаёміцца з паэтам завочна. Не тады, калі бярэш кніжку з гучным прозьвішчам аўтара, а тады, калі даведваесься пра аўтарства ўпадабанага твору праз нейкі час. Менавіта такое знаёмства адбылося ў мяне з творчасьцю Ўладзімера Жылкі. У пачатку дзевяностых я пачаў слухаць беларускае. Слухаў усё запар — ад афіцыйнай эстрады да падпольнага року. Але найбольшае задавальненьне прыносіла перазапісаная дзясяткі разоў аўтарская песьня. І неяк прывязалася да душы адна прыгожая песенька Вольгі Цярэшчанкі — «Шлях да Бога». Я доўга яе напяваў, міжволі вывучыўшы напамяць. Як высьветлілася, я вывучыў верш Уладзіміра Жылкі.

Напяваючы гэтую песьню, я ехаў у вёску Макашы, дзе сто гадоў таму нарадзіўся паэт. Ехаў па банальны сюжэт «да сотых угодкаў» Уладзімера Жылкі. Я не спадзяваўся знайсьці людзей, якія маглі памятаць равесьніка стагодзьдзя, што пакінуў родную вёску ў чатырнаццатым годзе. Адно думаў пабачыць дом, дзе паэт нарадзіўся і, магчыма, запытацца ў тамтэйшых дзяцей — ці кажа ім нешта гэтае прозьвішча — Жылка. Тым больш моцным было маё ўражаньне.

Знайсьці Макашы ня так праста. Я нават думаў, што ў такой вёсцы засталіся якія тры двары. Насамрэч паміж прыгожым лесам і рэчкаю Ўшой раскінулася даволі вялікае сяло. Старыя драўляныя дамкі перамяжоўваюцца з дыхтоўнымі мураванкамі. Сумным сымбалем праміналага стагодзьдзя гледзяцца руіны калгаснага мэхдвара з іржавымі шкілетамі камбайнаў. Некалькі вузкіх вулачак зьбягаюцца да немалой паляны. На ўзгорку разьлегліся вясковыя могілкі, а ў самым цэнтры гэтай зялёнай плошчы — ахайна абгароджаная пляцоўка зь невялічкім помнікам. На мармуровай пліце выгравіраваны знаёмы партрэт. Надпіс паведамляе, што тут, у вёсцы Макашы, нарадзіўся «беларускі савецкі паэт Уладзімір Жылка».

Пакуль я вывучаў помнік, да мяне падышла сямейная пара. Ён, трыццацігадовы алкаголік у бруднай цяльняшцы й з дурацкай усьмешкай на малінавым твары, яна, пачынаючая ўвядаць кабета, з крыху хітраватым позіркам. На руках у яе — замурзанае трохгадовае дзяўчо. *«А Вы дзедам інцярасуецеся?»* — запыталася кабета. *«Як Вы яго назвалі?»* — перапытаў я. *«Ну, гэтым, Жылко, пісацялем»*. Далей маёй асьветаю заняўся муж. Ён паведаміў мне, што гэты Жылко *«напісаў нейкі вершык, за што яго пасадзілі ў Сібір»*. А дом паэта, як высьветлілася, купіў нейкі дачнік з Менску. Дом, дарэчы, дзякуючы таму загадкаваму дачніку, выглядае, як нядаўна пабудаваны. Новая шалёўка, новая бляха.

*«А вунь там,* — паведаміла кабета, — *жыве стары дзед, які хрысьціў таго паэта»*. Можа, я чаго не дачуў, але да ўказанага кабетаю дому пайшоў зь вялікай цікавасьцю.

У даволі яшчэ моцным, але недагледжаным доме, на кухні, за брудным сталом сядзелі тры дзяды і пілі мутны самагон з клясычнай здаравеннай бутлі. Вызначыць узрост самага старэйшага было амаль немагчыма. Сказалі б «сто сямнаццаць», паверыў бы. Але гэты маленькі ўсохлы дзядок быў у кампаніі за камандзіра. Другі стары, рахманы й памяркоўны, ціхенька прытуляўся ў куточку. Трэці на тле астатніх двух выглядаў проста маладзёнам. Як высьветлілася, сын, гэта той, што маладзейшы, з бацькам, гэта той, што старэйшы, прыехалі з Баранавічаў адведаць свайго дзядзьку й брата, таго, што сядзеў ціхенька. Выпіта, мяркуючы па ажыўленай гамонцы, было нямала. Не пасьпеў я адрэкамэндавацца й дастаць мікрафон, як перада мною ўжо стаяў напоўнены кілішак. Я зьвярнуўся да самага старога, Івана Абрамовіча, народжанага ў Макашах праз два гады па зьяўленьні на сьвет свайго знакамітага земляка — у 1902-м.

*— Он з тысяча дзевяцьсотага году. Я з тысяча дзевяцьсот втарога году. Ацец яго хрысьціў міня. А ацец яго родам з-пад Слуцку. А он у нашай дзярэўні... при царызме былі манапалькі созданы... Вы гэтага ўжо ня помніце... І он пры Польшчы быў у Вільнюсе рэдактарам газэты «Звязда». Гэты Жылка рэдактарам быў. Патом яго пры... ня буду гаварыць, пры дыктатары, проста скажу... Паскольку я панімаю, што сказаць...*

Да мяне пакрысе пачынала даходзіць, што перад мною бяз двух гадоў аднагодак адыходзячага веку. Але ўсьвядоміць гэта цалкам на цьвярозую маю галаву было цяжкавата. Тым больш, што дзядуля, як я зразумеў, толькі пачынаў хмялець.

*«Нікалай, брацішка ты мой, мне ня нада заніматься балталогіяй. Ты знаеш пра Жылка словы? Гавары! Нада гаварыць то, што знаеш пра чалавека. А балталогіяй я вавек не занімаўся! Я должан гаварыць праўду. Чэсна і благародна! Сягоньня, можа быць, адна мінута, і канец маей жызьні. Мне ўжэ дзевяноста восем лет. Так іглі ня так? Дай мне сказаць, а ты патом будзеш гаварыць! Сядзі! Цябе памяшалі гэтыя пяцьдзясят грам? Мне сколька была, столькі я й не дапіў. Я не скажу, што я не ўпатрабляю... Далі яму пяць лет цюрэмнага заключэнія. За што, я не магу вам атвеціць. Патом он папаў у Прагу. Прага вы знаеце, чыя сталіца... Как он умер, какая яго пасьледняя судьба пасьціглa, я не магу вам сказаць. Патрыот быў родзіны. І вместа отдыха далі яму пяць лет цюрмы. Вот как! Жылі ані небагата. Памятнік яму ў нашай дзярэўні пастаўлены два-тры гады таму. (Скрозь плач) Жаль мне яго! Жаль мне яго! Жаль мне яго!»*

Стары Абрамовіч закурыў «Прыму» й запоўся такімі рыданьнямі, быццам пахаваў самага блізкага сябра. На днях. Зрэшты, з вышыні дзевяноста васьмі гадоў, напэўна, любая перажытая эпоха бачыцца, як нешта зусім нядаўняе.

Я ня стаў болей турбаваць старых людзей, пакінуўшы іх далей расьпіваць сваю пляшку. Ня цяжка нават уявіць, як гэтая троіца п'е на працягу стагодзьдзя. Ад самага нараджэньня. За пыльным вакном зьмяняюцца рэжымы і ўлады. Па дарозе на Ішкальдзь праходзяць арміі ў самых разнастайных уніформах. Радыё балбоча на розных мовах. А тут усё той жа стол. Усё той жа самагон. І ўсё тыя ж тосты за здароўе й доўгае жыцьцё! Там Расейская Імпэрыя і Рэч Паспалітая, Трэці Рэйх і СССР! І як тут не дапіцца да беларускай незалежнасьці!

Уявіць за гэтым сталом Жылку я ня здолеў. Ня тое што ў якой віленскай кавярні ці на праскай вуліцы. Адкуль, зрэшты, малады, невылечна хворы і незвычайна таленавіты чалавек вырашыў ехаць у чырвоны Менск. Абмяняць жыхарства ў Чэхіі на савецкі пашпарт сталінскага ўзору. Які неразумны ўчынак зь сёньняшняга гледзішча. Калі ўсё часьцей мяняюцца пашпарты незалежнай Беларусі ў адваротным накірунку. ■

# КНІГА ПАМЯЦІ

***Трагедия на Немиге / Аўтары літаратурнага праекту П.Сьцепаненка, Т.Равяка. — Вільня: Gudu raštijos draugija, 2000. — 608 с. — Наклад 1200 ас. ISBN 9955-437-03-0***




Роўна год таму ў Менску здарылася трагедыя, што пасьля доўга трымала ў вусьцішы ўсю сталіцу. На прыступках станцыі мэтро «Няміга» трагічна загінула 53 чалавекі. Адной з прыступак да праўды аб трагедыі на Нямізе сталася кніга «Трагедия на Немиге», выдадзеная супольна Цэнтрам абароны правоў чалавека «Вясна» і Цэнтрам сацыяльнае дапамогі «Няміга-99» з удзелам Цэнтру «Прававая дапамога насельніцтву». Прэзэнтацыя гэтага тому ў цьвёрдай вокладцы з фотаздымкамі й грунтоўнымі матар'яламі пра ахвяр трагедыі адбылася 24 траўня ў памяшканьні Літаратурнага музэю Максіма Багдановіча.

Аўтары-складальнікі кнігі Паліна Сьцепаненка й Тацяна Равяка асноўным прынцыпам сваё працы бачылі апытаньне толькі тых людзей, якія мелі дачыненьне да трагедыі. У кнізе няма эмацыйных ацэнак, большую частку матар'ялаў складаюць нарысы бацькоў. Гэтым сама тлумачыцца зьмяншэньне разьдзелу пра сьведак трагедыі, бо ў першыя дні было запісана шмат аповедаў, бальшыня з якіх, як высьветлілася, былі прыдуманыя. Аўтары плянуюць падрыхтаваць новае выданьне кнігі з успамінамі мэдыкаў і міліцыянтаў.

**Віктар Мухін**

## навіны

### Угодкі

У Чырвоным касьцёле прайшоў дабрачынны канцэрт, прысьвечаны гадавіне трагедыі на Нямізе. Капэла імя Шырмы і сымфанічны аркестар Беларускага радыё выканалі перад бацькамі загінулых на Нямізе дзяцей «Рэквіем» Моцарта. Праваабарончы цэнтар «Вясна» пасьля жалобнага канцэрту прадставіў слухачам кнігу ўспамінаў пра ахвяраў Нямігі. Аформіў кнігу Адам Глёбус.

### Чарнобыльская мадонна

У нямецкім горадзе Нінбургу адчыніўся помнік «Чарнобыльская мадонна». Стварыў манумэнт на грошы мясцовых мэцэнатаў віцебскі скульптар Іван Казак, аўтар помніка Марку Шагалу ў Віцебску.

### Пушкін невыязны

Улады не дазволілі Алесю Пушкіну ўзяць удзел у выставе сучаснага мастацтва ў варшаўскім Замку Ўяздоўскім, куды ён быў запрошаны з пэрфомансам «Фэнікс Беларусі». У Варшаве Пушкін меркаваў падпаліць сябе на пару сэкундаў, а потым, прыдушаны расейскім сьцягам і зьбіты байцамі РНЕ, ператварыцца ў бясплотную здань. Гэты ж пэрформанс Алесь зьбіраўся паказаць на нядаўняй выставе суполкі «Пагоня», але кіраўніцтва суполкі не дало яму дазволу на гэта. Старшы інспэктар папраўча-выхаваўчых працаў Крупскага раёну, дзе жыве мастак, маёр Валянцін Гурко, паставіў яму ў пашпарт штамп пра забарону выезду ўва ўсе краіны сьвету на паўтара гады, пакуль не скончыцца тэрмін пакараньня за гэпэнінг «Гной для прэзыдэнта».

**Юрась Барысевіч**

# СШЫТКІ МІХАІЛА ЛАПЦЕВА

З маскоўскім паэтам Міхаілам Лапцевым я пазнаёміўся праз публікацыю ў газэце расейскай контракультуры «Гуманітарны Фонд». Міхаіл пісаў пра нейкія ўласныя тэарэтычныя вынаходніцтвы (ці то нэаакмэізм, ці то нэаімажынізм) і прасіў ахвочых выказаць адносна ягоных спробаў заманіфэставаць паэтычную плыню. Я напісаў свае меркаваньні. Гэта было ў другой палове 1994 году. Міхаіл неўзабаве адказаў. На жаль, у сваім вялікім неўпарадкаваным архіве я ніяк не магу знайсьці таго ліста. Мне помніцца, гэта досыць стандартны прыватны ліст, без тэарэтычных разважаньняў і мудроных рэфлексіяў. Сьціслa пра літаратурныя навіны, кнігі і пляны. Прычым ніякіх скаргаў на жыцьцё. Адзінае, пра што апавядалася з сумам і ціхім болем, тычылася расейскага літаратурнага працэсу, які няўхільна маргіналізуецца і абяскроўліваецца. Міхаіл падзякаваў за дасланы мой зборнік «Разьвітаньне з Танталам» і абяцаў пераслаць свой... калі нехта зойдзе і аднясе кнігу на пошту. Пазьней я даведаўся (ад іншых людзей), што Лапцеў быў страшэнна хворы на нейкую бязьлітасную хваробу, якая штохвіліны пасьлядоўна выпручвала ягонае цела. Прычым на гэткую ж хваробу пакутавала і маці Лапцева, якая ўжо ўвогуле не падымалася з ложку. Два чалавекі ў халоднай маскоўскай кватэры марудна, пакутліва паміралі. Часам бязь лекаў і ежы.

Сваю кнігу Міхаіл, як і абяцаў, хутка даслаў — «Корни огня. Стихи 1987—1994 годов», Издательская квартира Андрея Белашкина, Серия «Классика XXI века». На тытуле зрабіў цёплы надпіс: «Уважаемому Алесю, с пожеланием, чтоб у него на каждом аркуше проявлялась объективная истина поэзии, её как бы симпатические чернила. 14/X-94». У кнізе была незвычайная паэзія, якая мне чамусьці нагадвала расейскія футурыстычныя экспэрымэнты пачатку XX стагодзьдзя. Праўда, сёньня я не хутчэй параўнаў бы з «мадэрнізаваным» Бродзкім. Вершы шчыльныя, мэтафарычныя, асацыятыўныя.

Празь нейкі час я зноў атрымаў бандэролю ад Лапцева. У ёй былі два тоўстыя вучнёўскія сшыткі, поўныя вершаў. Міхаіл паведамляў, што дасылае іх мне на азнаямленьне, маўляў, гэта адзіны асобнік і я мушу абыходзіцца з рукапісамі акуратна. Вершы былі незвычайныя і значна «сьпялейшыя» за тыя, якія ведаў па зборніку. Што зь імі я павінен быў зрабіць? Прачытаўшы і напісаўшы аб сваіх уражаньнях, я пераслаў сшыткі назад у Маскву.

Праз год ад Руслана Эленіна, заснавальніка сэрыі «Классика XXI века», я даведаўся пра сьмерць Лапцева. Узгадаліся ягоныя сшыткі, у якія рука паэта, адпачываючы пасьля двух-трох радкоў, перапісвала апошняе-лепшае. Магчыма, у прадчуваньні сьмерці. Ці пасьпеў Лапцеў атрымаць свае сшыткі назад? Дзе яны зараз? І пякучая здагадка завярэдзіла душу — гэта мне ён завяшчаў тыя перадсьмяротныя вершы, сабраныя для новай кнігі. У Маскве, у Расеі — завяшчаць не было каму.

Немагчыма не згадаць тут і пра лёс паэта, выдаўца Руслана Эленіна. Дзякуючы ягонай неўтаймоўнай энэргіі ў Расеі быў створаны Фонд падтрымкі некамэрцыйных выдавецкіх праграм. Дзясяткі кніг, пераважна экспэрымэнтальнай скіраванасьці, пабачылі сьвет. Эленіна таксама ўжо няма. У 1996 годзе, калі Руслан вяртаўся з Падмаскоўя, па дарозе на чыгуначную станцыю яго моцна зьбілі. Некалькі месяцаў праляжаў ён у коме ў маскоўскай клініцы. Усе спробы захаваць паэту жыцьцё не прынесьлі посьпеху.

**Алесь Аркуш**

## новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю

**Акадэмік Гаўрыла Гарэцкі/** Успаміны, артыкулы, дакумэнты; Да 100-годзьдзя з дня нараджэньня/ Укладальнікі Р.Гарэцкі, Р.Зінава; Пад рэдакцыяй Р.Гарэцкага. — Менск: Тэхналёгія, 2000. — 420 с. — Наклад 500 ас. ISBN 985-6234-81-6

*У кнізе, выдадзенай да 100-годзьдзя брата Максіма Гарэцкага, вядомага беларускага геоляга, географа й грамадзкага дзеяча, зьмешчаныя архіўныя матар'ялы, вершы, сьпісы твораў акадэміка, а гэтаксама твораў пра яго. У кнізе шмат фотаздымкаў выдатнай якасьці. Набыць можна ў кнігарні «Акадэмкніга» за дзьве з гакам тысячы рублёў.*

А.Бельскі. **Сучасная літаратура Беларусі:** Дапаможнік для настаўнікаў. — Менск: ТАА «Аверсэв», 2000. — 127 с. — Наклад 5000 ас. ISBN 985-6389-61-5

*Каштуе 800 з гакам рублёў.*

А.Булыка. **Беларуска-расейскі слоўнік для школьнікаў.** — Менск: ТАА «Аверсэв», 2000. — 271 с. — Наклад 11000 ас. ISBN 985-6389-42-9

Н.Бярозкіна. **Гісторыя кнігадрукаваньня Беларусі (XVI — пачатак XX ст.).** 2-е выданьне. — Менск: Беларуская навука, 2000. — 199 с., іл. — Наклад 1000 ас. ISBN 985-08-0351-7

*Ад кніг Францішка Скарыны — да кніг Марціна Кухты. Гэта ўжо другое выданьне кнігі.*

А.Вішнеўскі. **Гісторыя дзяржавы й права Беларусі:** Навучальны дапаможнік. — Менск: ВП «Экапэрспэктыва», 2000. — 319 с. — Наклад 3000 ас. ISBN 985-6102-39-1

*У гэтай кнізе, прызначанай для студэнтаў-праўнікаў, разглядаецца паўстаньне й разьвіцьцё дзяржаўнасьці Беларусі ад пачатку другога тысячагодзьдзя. Цана 1170 рублёў.*

**Даведнік для паступаючых у сярэднія спэцыяльныя навучальныя ўстановы Рэспублікі Беларусі ў 2000 годзе/** Складальнік Г.Асіпенка ды інш. — Менск: Вышэйшая школа, 2000. — 160 с. — Наклад 10000 ISBN 985-06-0619-3

**Ідыёт, самы настаяшчы: Першаму прэзыдэнту РБ прысьвячаецца:** Творы й экспромты ў розных жанрах. Уклалі К.Атрашэўскі і Л.Буракоўскі. — Менск — Варшава — Масква: Контрапрэс, 2000. — 131 с.

*Гэтая кніжыца «паэзіі» ёсьць найпаўнейшым зборам-сьведчаньнем бязьмежнае «любові» беларускага народу да «народнага» прэзыдэнта.*

**Все белорусские фильмы:** Каталог-справочник. Т.2. Игровое кино (1971—1983)/ Аўтары-складальнік І.Аўдзееў, Л.Зайцава; Навуковы рэдактар А.Красінскі. — Менск: Беларуская навука, 2000. — 299 с., іл. — Наклад 1550 ас. ISBN 985-08-0348-7 (т. 2)

*У кнізе ў падрабязных анатацыях рэпрэзэнтаваныя ўсе беларускія фільмы ад 1971 да 1983 году. Некаторыя артыкулы дапоўненыя кадрамі зь фільмаў. Цана 2650 рублёў.*

Г.Кісьліцына. **Лірычная мініятура як жанар беларускае літаратуры/** Навуковы рэдактар І.Багдановіч. — Менск: Беларуская навука, 2000. — 118 с. — Наклад 700 ас. ISBN 985-08-0354-1

А.Клышка. **Буквар:** Падручнік для падрыхтоўчых клясаў агульнаадукацыйнае школы зь беларускаю мовай навучаньня. 3-е выданьне. — Менск: Народная асьвета, 2000. — 200 с., іл. — Наклад 36000 ас. ISBN 985-12-0123-5

І.Роўда ды інш. **Экзамэн зь беларускае мовы:** Дапаможнік для абітурыентаў і вучняў старэйшых клясаў/ І.Роўда, В.Красьней, І.Шкраба. — Менск: ТэтраСыстэмс, 2000. — 160 с. — Наклад 4000 ас. ISBN 985-6577-04-7

В.Круталевіч, Я.Юхо. **Гісторыя дзяржавы й права Беларусі (1917—1945).** 2-е выданьне. — Менск: Беларуская навука, 2000. — 132 с. — Наклад 10000 ас. ISBN 985-6598-07-

*Усяго за 625 рублёў аўтарытэтнае дасьледаваньне дзяржаватворчых працэсаў у Беларусі ў XX ст. прафэсараў В.Круталевіча й Я.Юхо.*

**Курсавыя й дыплёмныя работы зь беларускае мовы.** Навучальны дапаможнік/ Ю.Бабіч, І.Бондал, Л.Васюковіч ды інш.; Пад рэдакцыяй Л.Васюковіч. — Менск: Унівэрсытэцкае, 2000. — 248 с. — Наклад 1500 ас. ISBN 985-09-0296-5

*Аўтары паспрабавалі сыстэматызаваць усе патрабаваньні, што маюць быць узятыя пад увагу студэнтам у часе напісаньня курсавой ці дыплёмнай работы зь беларускае мовы. Гэтаксама зьмешчаны ўзоры напісаньня асобных частак работ.*

**Матар'ялы з гісторыі Беларусі:** Даведачны дапаможнік/ Складальніца Н.Шарова. — Менск: ВП «Экапэрспэктыва», 2000. — 192 с. — Наклад 10000 ас. ISBN 985-6598-07-9

Л.Скоринкин. **Золотая паутина:** Стихотворения. — Менск: Беларускі кнігазбор, 1999. — 64 с. — Наклад 1000 ас. ISBN 985-6318-63-7

М.Стрыгалёў. **Vigilia tertia (Третья стража):** Стихотворения. — Менск: Мастацкая літаратура, 1999. — 351 с., іл. — Наклад 1300 ас. ISBN 985-02-0200-2

**Царэўна ў падземным царстве. Беларускія народныя казкі з збору А.Афанасьева/** Пераклаў і ўклаў У.Ягоўдзік. — Менск: Полымя, 2000. — 64 с., іл. — Наклад 7000 ас. ISBN 985-07-0264-8

**Пётар Явіч. Ілюстраваны альбом жывапісных твораў** (у беларускай, расейскай, вугорскай і ангельскай мовах). Складальнікі В.Рыбакоў і М.Рызо. Аўтар тэксту М.Гугнін. — Віцебск, 1999. — 160 с. — Наклад 2000 ас. ISBN 985-454-053-7

*Творы вучня Юдаля Пэна, беларускага мастака вугорскага паходжаньня Пятра (Іштвана) Явіча належаць да рэалістычнага жанру. Альбом можна набыць за 1560 рублёў у кнігарні «Вянок», што ў Траецкім прадмесьці ў Менску.*

А.Яновский, В.Бобышев. **Дипломатика и дипломаты России** (от Ивана III до Петра Великого). — Менск: Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт, 2000. — 93 с. — Наклад 300 ас. ISBN 985-445-278-6

**Агляд падрыхтаваў Віктар Мухін**

# ВЫСТАВА ЦІШЫНА



Ігар Цішын. Партрэт невядомай

У мастацкім цэнтры «Жыльбел» адчынілася пэрсанальная выстава найбольш яркага прадстаўніка беларускага постмадэрнізму ў жывапісе Ігара Цішына. На выставе шмат карэктна расфасаванага эпатажу, пачынаючы з запрашальніка — цалкам чорнай паштоўкі. Аўтар «эпатуе буржуа», выстаўляючы карціну, расьпілаваную на дробныя фрагмэнты, жартуе на сьвятую для кожнага савецкага беларуса партызанскую тэму, дасьціпна жанглюе цытатамі з Суціна, Эйнштэйна, Фрэнсыса Бэкана, Максіма Гарэцкага. Увогуле ўсё гэта нагадвае цалкам рацыянальнае і вельмі зграбнае трызьненьне. Мастацтвазнаўцы лічаць выставу адной зь лепшых за ўсю гісторыю «Жыльбелу».

Ігар Цішын. Партрэт невядомага



# БЕЗДАПАМОЖНЫ САМАЗАБОЙЦА — АКУТАГАВА РУНОСКЭ

*Наўздагон тэкстаў*

Адам ГЛЁБУС



***

Нататкі Акутагавы Руноскэ вытанчаныя, як трэснутая бамбукавая вудачка, што прадаецца ў краме «Паляўнічы й рыбак».

***

Акутагава пісаў: «...нават калі адкінуць агіду гарадзкога жыхара да глухмені...» Падобнага я не сустракаў ні ў аднаго зь беларускіх літаратараў, яны — **сена на асфальце**, усе — **родам з хатаў**, а мне да душы японская агіда да глухмені.

***

«Хлусьня — праўда мінулага, яна роднасная грашам, што хадзілі ў часы старажытных княстваў», — выдатна заўважыў і параўнаў Акутагава. Грошы ня лепшыя за людзей і доўга не жывуць.

***

Акутагаву зьдзіўлялі ордэны і тое, што вайскоўцы ў цьверозым стане гуляюць з начэпленымі на грудзі ордэнамі. Я з гэтаю зьяваю звыкся, толькі большасьць беларускіх вайскоўцаў і вэтэранаў, абчапляных шалупіньнем узнагародаў, разгульваюць у нецьвярозым стане.

***

Грошы добрыя хоць бы таму, што нянавісьць, сутыкаючыся з выгодамі, губляе вастрыню.

***

«Заўзятыя нацыяналісты, у большасьці сваёй, — людзі, якія пазбаўленыя радзімы. Нікому з нас ня трэба тое, што мы маем», - разважаў Акутагава Руноскэ. Не хацеў бы зь ім пагаджацца, але самыя пасьлядоўныя айчынныя нацыяналісты: Пазьняк, Сокалаў, Надсан — жывуць у чужых краінах.

***

На пачатку 20-х гадоў XX стагодзьдзя Акутагава выказаў наступную думку. Самая вялікая трагедыя сучаснага Кітаю палягае ў тым, што ў нацыяналістычных рамантыкаў няма чалавека, падобнага да Мусаліні, які быў бы здатны даць ім жалезнае выхаваньне. Цікава, што б сказаў той жа Акутагава, калі б пабачыў жалезнае выхаваньне, якое ўвёў у Кітаі адзін з самых крыважэрных тыранаў сьвету - Мао?

***

Жыцьцё падобнае да алімпійскіх гульняў, наладжаных вар'ятамі... Заўважыў Акутагава. І пэўна ж, яно нагадвае алімпійскія гульні, на якіх за судзьдзяў працуюць псыхічна хворыя людзі. А хто й калі стварыў нашае жыцьцё - пытаньне асобнае.

***

Калі жанчына выходзіць замуж, і ў яе пасяляецца душа хатняе жывёлы, пра што пісаў Акутагава, дык сям'я мае шанец захавацца й доўга жыць, пры ўмове, што муж мае душу паляўнічага. А калі ў жанчыны застанецца душа драпежнай і непрыручанай істоты, захаваць сям'ю немагчыма, нават калі ў мужа душа забойцы.

***

Адна з асаблівых рысаў генія - здатнасьць наладжваць скандалы. У гэтым назіраньні Акутагавы для мяне вельмі важна, што геній ня ўдзельнічае ў скандалах, а ладзіць іх.

***

Я ніколі не падаю жабракам. Ёсьць шмат іншых людзей, каму патрэбная мая дапамога. Вельмі хацелася б дапамагчы Акутагаву, які ў змрочны для сябе дзень напісаў: «Той, хто ня мае матэрыяльнага багацьця, ня мае й багацьця духоўнага - так было ў дзьвюхтысячагадовай старажытнасьці. Сягоньня інакш - той, хто мае багацьці матэрыяльныя, ня мае багацьцяў духоўных». А на мой розум, скарбы духоўныя не знаходзяцца ў непасрэднай залежнасьці ад скарбаў матэрыяльных.

***

Акутагава пабачыў сінюю варону й напісаў пра яе занатоўку, а не хайку. Можа ён і сапраўды быў больш эўрапейцам, чым азіятам. Толькі за празаічнай мініятураю я ўсё адно бачу накід хайку пра сінюю варону на голай галіне.

***

Ці змогуць эўрапейцы, колькі ім ні тлумач, зразумець веліч Басё — гэта пытаньне з пытаньняў... Задумваўся Акутагава. А я думаю, што зразумець Басё зусім ня цяжка. Гэта як дакрануцца рукою да поўні, гэта можа зрабіць кожны.

***

Чым павучаць іншых, лепей вучыцца самім... Досыць спрэчнае сьцьверджаньне прачытаў у Акутагавы. Каб нечага навучыцца самому, трэба некага навучыць гэтага. Я так мяркую.

***

Акутагава разважае пра сьмяротнасьць усяго існага й цытуе Ван Шанчжэна: «Карціна жыве пяцьсот гадоў, кніга - васямсот». У маіх выдавецтвах за сем гадоў выйшла больш за тысячу дзьвесьце найменьняў кніжак. Шмат якія не пражылі й паўгода, непрададзеныя наклады былі адпраўленыя на фабрыку для пераваркі ў кардон. Таму маю поўнае права не пагадзіцца з Ван Шанчжэнам. Толькі асобныя кніжкі могуць мець доўгае жыцьцё. І не абавязкова гэта будзе лепшае ці горшае з напісанага і выдадзенага, гэта будуць кніжкі доўгажыхары, як і людзі-доўгажыхары зусім не абавязкова зьяўляюцца найлепшымі з роду чалавечага.

***

Што зьдзівіла ў занатоўках Акутагавы: ён ніколі не чытаў ні даоскіх, ні будыскіх твораў. Нават ня верыцца. Ён прачытаў безьліч другараднай замежнай, збольшага заходнеэўрапейскай, літаратуры, імправізаваў на матывы Гогаля й Суіфта, быў бясспрэчна адукаваны й выкшталцоны, але адкуль такая хранічная хвароба на сацыялізм, такое неразуменьне й непрыманьне ідэяў будызму й даасізму. Добра яшчэ тое, што, у адрозьненьне ад сваіх эўрапейскіх аднадумцаў, ён не паліў сабораў, а прызнаваўся, што недзе на сподзе душы ў яго тоіцца перайманая ад далёкіх продкаў ідэя адрошанасьці.

***

Зь вялікай ахвотаю я пагадзіўся б з наступным выказваньнем Акутагавы: «Зразумеў, што калі б нават у думках параўнаць створанае намі з творамі найвялікшых майстроў, дык напісанае намі, усё без выняткаў, не шкада шпурнуць у вогнішча», каб не адна акалічнасьць: кінуць у полымя мае рукапісы можна й безь мяне. Нашто час марнаваць?

***

Я займаюся вывучэньнем творчасьці Акутагавы зусім не таму, што ён блізкі мне, наадварот, я зраблю ўсё, каб спасьцігнуць ягоны шлях і не пайсьці ў тым накірунку.

# ПЯЦЬ ВІДАЎ АПАЗЫЦЫІ

Нашая апазыцыйная эліта (ці элітная апазыцыя), калі жадае паскардзіцца на свой цяжкі апазыцыйны лёс, зазвычай нагадвае, што «народ варты той улады, якую мае». Якасьць улады (і апазыцыі таксама) сапраўды залежыць ад грамадзтва, ягонае палітычнае (і ня толькі) культуры. Той жа народ, што дамінуючым тыпам культуры мае фізычную, мае адпаведных палітыкаў і палітыканаў.

Макс Вэбэр, даючы клясыфікацыю палітыкаў, залучаў іх да наступных відаў: выпадковыя, па сумяшчальніцтве ды прафэсійныя. Да выпадковых ён прылучаў тых, хто бярэ ўдзел у палітычным жыцьці ад выпадку да выпадку, напрыклад, выбарцаў (хацелася б, каб некаторыя з гэтай катэгорыі рабілі гэта як мага радзей). Палітык па сумяшчальніцтве — гэта сябар палітычнае партыі, дэпутат прадстаўнічых (і ня вельмі) органаў, які мае адрозную ад палітычнай прафэсію й займаецца палітыкай у вольны ад працы ці беспрацоўя час. Прафэсійныя ж палітыкі робяць свой занятак сродкам атрыманьня матэрыяльных і нематэрыяльных даброт.

З нашай уладай усё зразумела: тыя месцы, якія ў ідэале мусяць займаць прафэсіяналы, насамрэч укамплектаваныя нават і не выпадковымі палітыкамі, а выпадковымі людзьмі і людзьмі па сумяшчальніцтве (але гэта далёка невыпадкова). Таму мне ня хочацца камэнтаваць пададзенае вышэй выслоўе, разважаючы пра ўладу ўвогуле і пра беларускую (антыбеларускую) уладу ў прыватнасьці.

Нашмат больш блізкай і роднай ёсьць для мяне беларуская апазыцыя (зрэшты, не заўсёды такая ўжо й беларуская). Датычна апазыцыі вэбэраўская клясыфікацыя набывае наступны выгляд: апазыцыянэр(-ка) выпадковы(-ая), апазыцыянэр(-ка) па сумяшчальніцтве і апазыцыянэр(-ка) прафэсійны(-ая). Народ жа варты той апазыцыі, якую мае.

Клясыфікацыю апазыцыянэраў варта пачаць зь людзей з прыступамі апазыцыйнасьці (патэнцыйных, але часьцей за ўсё імпатэнцыйных апазыцыянэраў).

Гэты від найбольш распаўсюджаны, але ідэнэўстойлівы. Апазыцыйнасьць для яго ёсьць псыхічным адхіленьнем, якое праяўляецца час ад часу ў выглядзе ўпадзеньня ў апазыцыйнасьць. Хвароба гэтая настолькі небясьпечная, што ейнае папярэджаньне й лекаваньне праводзіцца на вышэйшым дзяржаўным узроўні і нават не праз міністэрства аховы здароўя, а праз МУС, КГБ і МНС. Яны ажыцьцяўляюць вакцынацыю насельніцтва, ізаляцыю распаўсюджвальнікаў вірусу. Але часам гэтыя «санітары» беларускага грамадзтва не пасьпяваюць абясшкодзіць кропкі захворваньня (часьцей за ўсё ў раёнах блышыных рынкаў і славянскіх базараў), а праз тое, што галоўным носьбітам інфэкцыі ёсьць «бляха вашывая звычайная», што перасоўваецца чаўночным шляхам, узьнікае эпідэмія. Для ейнае ліквідацыі спэцслужбы санітарнага кантролю пры ППРБ уводзяць каранцін, ужываючы ў дачыненьні да хворых дэзынфэктанты.

Пры недастатковым наглядзе прыступы апазыцыйнасьці пераходзяць у невылечную чуму эры Лукашэнкі — сындром набытай апазыцыйнасьці чалавека. З паглыбленьнем хваробы апазыцыянэр пераходзіць у наступную катэгорыю нашае клясыфікацыі.

«Адмарозак» — такі цёплы паэтычна-ўзьнёслы назоў даў гэтай катэгорыі рэзанатар Зімоўскі. Гэтыя таварышы (у тым ліку і мае) актывізуюцца з надыходам цяпла (т.зв. «гарачае» вясны), набліжэньнем нацыянальных сьвятаў, чарговых падпісаньнямі чарговых саюзных дамоваў. Цяпер яны сабе й новую забаўку прыдумалі, абы па горадзе пашвэндацца — Марш Свабоды: была б нагода, а месца знойдзецца (Бангалор не прапаноўваць).

У моманты найбольшай сонечнай і радыеактыўнасьці «адмарозкі» робяцца агрэсіўнымі й небясьпечнымі для ППРБ, таму апошні хаваецца дзе-небудзь у мірных і спакойных Іраку ці Савудаўскай Аравіі. Для астуджэньня найбольш палымяных і гарачых «адмарозкаў» (гэта не аксюмаран) выкарыстоўваецца халодная вада з вадамётаў ці проста із Сьвіслачы ці ГУМу. У пэрыяды найбольшай крызы ў жыцьці «адмарозкаў» нашая гуманная, клапатлівая сацыяльна-праўная дзяржава забясьпечвае іх, змагароў з рэжымам, рэжымам пасьцельным, прымусова зьмяшчаючы іх на ўтульныя нары прыёмнікаў-разьмеркавальнікаў санаторна-антысанітарнага тыпу.

«Адмарозкі» — сталыя спажыўцы і распаўсюднікі прадукцыі друкарскага станка (не грашовага). Прадметам іхнага асаблівага гонару ёсьць фотаздымкі ў прэсе, асобныя («Вось гэта — я», іх асабліва любяць лібэралы) або групавыя («Я з групай таварышаў», большым попытам яны карыстаюцца між сацыял-дэмакратаў) і «Мая сям'я» (папулярныя ў кансэрватараў).

Гэтая групоўка апазыцыянэраў валодае найбольшай ідэйнай устойлівасьцю пры няўстойлівасьці псыхічнай, што мае праявы ў асабліваасьцях як грамадзкага, так і асабістага жыцьця. Адным з найбольш інтымных дзеяньняў ёсьць у адмарозкаў праслухоўваньне радыё «Свабода». Пэрыяды асаблівай узбуджанасьці прыпадаюць акурат на час разгону масавых (ці нямасавых) акцыяў і пасьля іх. Рэляксацыя надыходзіць пасьля шматразовага прагляду інфармацыйных праграмаў з чаканьнем: пакажуць ці не? Энэргетычна падсілкоўваюцца адмарозкі творамі айчыннага кінамастацтва. Вэстэрнам сярод іх стаўся фільм «Як гэта было: бойка на Сьвіслачы» (вытворчасьць кампаніі БТ).

Як бачым, «адмарозкі» схільныя да мазахізму, што праяўляецца яшчэ і ў рэгулярным праглядзе «Рэзанансу» ды іншых забаўляльна-парнаграфічных праграмаў. Небясьпечным адхіленьнем псыхікі стаўся для іх т.зв. «сындром рэзыдэнта» (манія перасьледу). Таму яны вельмі падазрона ставяцца да ўсіх, у тым ліку і да сябе.

«Адмарозьніцтва» характарызуецца яшчэ й прагай вылучыцца, што выклікае такія захворваньні, як «сындром блукаючага форварда» і «сындром Мірона», які характарызуецца жаданьнем вывесіць дзе-небудзь бел-чырвона-белы сьцяг, хаця б у сябе ж на бальконе.

Апроч адмарозкаў, у апазыцыі ёсьць «сэмінарысты» (ня блытаць з навучэнцамі духовае сэмінарыі). На першы позірк папуляцыя гэтага віду даволі шматлікая, а арэал распаўсюджваньня бязьмежны. Але пры больш пільным вывучэньні высьвятляецца, што гэтая тусоўка абмяжоўваецца «трэцім» сэктарам, а найбольшай канцэнтрацыі «сэмінарысты» дасягаюць каля розных NGO, рэсурсавых цэнтраў ды і г.д. Пры надыходзе халадоў «сэмінарысты» вылятаюць у вырай (на замежныя сэмінары), бо на тэрыторыі нашае сінявокае Бацькаўшчыны халяўнае харчаваньне робіцца цяжкадаступным, на тэрыторыі IBB разгортваюцца цэлыя бойкі за дадатковую порцыю дэсэрту (дзейнічае закон палітычных джунгляў: выжывае самы нахабны, паміраe таксама самы нахабны). Разбэшчаныя халяўнай ежай (праз парушэньне правіла: «Сэмінарыстаў» з рук не карміць»), яны амаль цалкам страчваюць здольнасьць самастойна здабываць харчаваньне, таму часьцяком галадаюць. Мэцэнаты, спонсары, грантадаўцы! Вы адказныя за тых, каго прыручылі. Не пакідайце ж «сэмінарыстаў» нашых беларускіх, каб ня ўмёрлі!

На «грантасосах» жа, яшчэ адным тыпе апазыцыянэраў, што здабываюць усе гэтыя гранты, зь якіх жывуць сэмінарысты, трымаецца ўся гэтая халява. Да іх трэба ставіцца вельмі ашчадна, тады яны менш ашчадна будуць ставіцца да грошай. Але я ўжо нешта занадта шмат пра іх нагаварыла — так можна і безь бясплатнага абеду застацца.

Нарэшце, апошні падвід нашых апазыцыянэраў — «лідэры нацыі». Іх ведаюць усе, акрамя той нацыі, лідэрамі якой яны сябе лічаць. Яны любяць патусавацца сярод якіх замежнікаў, хаця б расейцаў, пафатаграфавацца зь імі, папрасіць грошай на разьвіцьцё дэмакратыі і абарону незалежнасьці. Іхныя прозьвішчы заносяць у апошнія розныя сацыялягічныя службы, каб пасьля вызначыць паводле іх індэкс недаверу да апазыцыі.

Для часткі зь пералічаных катэгорыяў прафэсійных апазыцыянэраў (самі здагадайцеся, якіх) ППРБ выконвае свае канстытуцыйныя абавязкі, зьяўляючыся гарантам існаваньня і забясьпечваючы ім або годнае жыцьцё, або магчымасьць і патрэбу з сабой змагацца. Бо формула дабрабыту простая: чым менш дэмакратыі, тым больш грошай на ейнае разьвіцьцё.

Наталька Базылевіч




***ВЯЛЕБНЫ КСЁНДЖА, ПРОБАШЧУ МІХАЛЕ!***

Парафіяне касьцёла Сьвятой Тройцы на Залатой Горцы, шчыра віншуюць Вас ***з 10-годзьдзем капланскай службы.*** Няхай Добры Пан Бог асьвячае Вас кожны дзень, каб і надалей Вы так аддана і шчыра пры моцным здароўі служылі Пану Богу і людзям.

*"Каб Пан Бог пачуў цябе ў дзень суму! Каб засланіла цябе імя Бога Якубавага! Няхай дасьць Табе, чаго сэрца Тваё жадае, і споўніць усе Твае замыслы." Пс.20 (2, 5).*

*Бо заплата за грэх — сьмерць, а дар Божы — жыцьцё вечнае ў Хрысьце Ісусе, Спадары нашым. Рымл. 6:23.*
**БЕЛАРУСКАЯ ЭВАНГЕЛЬСКАЯ ЦАРКВА**
штонядзелю ў Менску а 17-й гадзіне:
вул.Любімава 21-56,
тэл.: 279-71-31, 270-89-87;
штонядзелю ў Асіповічах аб 11-й гадзіне:
вул.Леніна 40, тэл.: 20-840.

**Спачуваем і зычым вытрываласьці Юрасю Бушлякову ў гадзіну смутку**

**Паважаныя сябры!**

Да вас зьвяртаюцца бацькі г.Магілёва, якія хочуць і будуць дамагацца, каб з наступнага навучальнага году навучаць сваіх дзяцей па-беларуску. Калі вы падзялясце нашыя намеры, але ня ведаеце, з чаго пачынаць і да каго зьвяртацца — далучайцеся, і супольна мы вырашым усе незразумелыя пытаньні. У бліжэйшых плянах таксама стварэньне беларускамоўнага асяродку для дзетак дашкольнага веку.

Сьпяшайцеся! Да новага навучальнага году ўсяго 3 месяцы.

Наш кантактны тэлефон у Магілёве: 32-33-24.

Тыя, хто можа вучыць дзяцей дашкольнага веку матэматыцы і лёгіцы праз цікавыя гульні, тэлефануйце: 228-68-91 з 19.00 да 22.00. Ігар Вітальевіч



*Танюша, зайчык ты мой сонечны! З Днём нараджэньня цябе! Твой Алесік*

**ГАЗЭТА ПРЫМАЕ ТАКСАМА АБВЕСТКІ БОЛЬШЫМ ШРЫФТАМ ЗА НЕВЯЛІКУЮ ПЛАТУ**

- *да 20 словаў (тэкставы модуль)— **90** руб.,*
- *звыш 20 словаў (тэкставы модуль) — **114** руб.;*
- *па-мастацку аформленая аб'ява – **54** руб. за 1 кв. см;*
- *па-мастацку аформленая аб'ява памерам больш за **24** кв. см з улікам кошту арыгінал-макету — ад **72** руб. за 1 кв. см.*

*За аб'яву пра сямейныя падзеі — зьніжка.*

Абвесткі палітычнага характару і ад грамадзкіх арганізацыяў мусяць аплочвацца паводле рэклямных расцэнкаў для камэрцыйных аб'яваў.

Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на наступны разьліковы рахунак: *Рэдакцыя газэты «Наша Ніва», р/р 3012213050010 Ленінскае адд. ААТ «Белбізнэсбанку» г.Менску, код 763.*

На зваротным баку блянку паштовага пераводу ў сэктары «Для пісьмовых паведамленьняў» запісваецца дакладна і чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і АБАВЯЗКОВА ДАДАЕЦЦА СКАЗ: «ЗА РЭКЛЯМНЫЯ ПАСЛУГІ».

*Рэдакцыя*

## прыватныя абвесткі

**вітаньні**

**Прывітаньне з арганізацыі** з пажаданьнем здароўя і посьпехаў. «Аднакурсьніца»

**Віншую Дар'ю Ліс** з нагоды вяртаньня з гарачае індыйскае зімы ў халоднае беларускае лета. Гарачая арыйская дзяўчына Наталька Базылевіч

**Наташа**, я заўсёды з табою. Ніколі цябе не пакіну. З «Арганізацыі»

**Віталька**, родны, з Днём народзінаў! Жадаю шчасьця і пасьпяховай здачы іспытаў, асабліва па вылпрагу... Я ў цябе веру. В.Вянтура

**М-к!** Мінула 6. Дзякуй за Сьвятло і цеплыню, якія сыходзяць ад цябе. Два Баранчыкі

**Эдвард!** З народзінамі! Заўжды быць вясёлым, шчасьлівым і ўсімі людзьмі любімым!

**Алеся Аркуша** віншую з Днём народзінаў. Зычу шчасьця, моцнага здароўя і доўгіх год жыцьця! Сьведка

**кашуля**

**Падкажыце,** калі ласка, дзе можна набыць беларускую нацыянальную кашулю. Т.: 206-73-67, Менск, Прытыцкага 102-152

**намёт і ровар**

**Прадам намёт** польскі 3-х месцавы, **ровар «Старт-шаша»** — усё б/у і танна. Т.: 226-42-63, Сяржук

**праца**

**Ангельская мова**: пераклады з/на беларускую, расейскую (магчымы набор), заняткі зь дзецьмі (магчыма па-беларуску). Т.: 262-52-86, Юрась

**Фальклёр-тэатру «Госьціца»** патрабуюцца: адміністратар, акампаніятар (фартэпіяна), выканаўца народных песень, артысты балету. Даведкі па тэлефоне: 236-60-53

**Нятанна прадаю разумную галаву**, магчыма, з нагамі. Сур'ёзны досьвед працы ў прэсе і TV, шырокагульныя веды. Кантакт праз т.: 223-31-07 (спытацца Ілону)

**Шукаю добра аплочванай працы ці падпрацоўкі** (прэс-сакратар, журналіст, здымкі, інш.). Мужчына, 28. Кантакт: 223-31-07, спытацца Ілону

**Дапамагу пачаць уласную справу ў хаце** (не рапаўсюджваньне!). Прыбытак ад 200 у.а. Нескладана! Могуць усе! Ад Вас — капэрта са зв/а+купон б/а: 220089, Менск-89, а/с 122

**Шукаю працы** па апрацоўцы папер, лістоўды рэклямных праспэктаў. Якасьць гарантую. 225710, Пінск-4, д/з на студ. білет 7617

**Запрашаем журналістаў і адмыслоўцаў** да супрацоўніцтва з газэтай «Голас Краю». Дапамога нацыяналістам — справа гонару кожнага беларуса. 220037 Менск а/с 49 E-mail: spa_kraj@hotmail.com

## паштовая скрынка

**Рэдакцыі газэты «С.Н.» зь Менску.** *Платную абвестку Вашу ня можам зьмясьціць, бо яна ад арганізацыі, а не ад прыватнай асобы, і мусіць аплочвацца па іншых, больш высокіх расцэнках. Апроч таго, грошы мусяць быць пераказаныя паштовым пераводам, а не дасланыя гатоўкай.*

**Аляксандру Г. зь Менску.** *Дзякуй.*

**НАША НІВА КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ______________________

______________________

______________________

Імя і прозьвішча ______________________

Адрас, тэлефон ______________________

«Наша Ніва» незалежная газэта, заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец. Рэдактар выпуску Андрэй Дынько. Мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі. Сакратар-рэфэрэнт Аляксандра Макавік. Дызайн-макет Лявон Раманчык. Выдавец: рэдакцыя газэты «Наша Ніва». Заснавальнік Павал Жук.
**Адрас для допісаў: 220050, Менск, а/с 537.**
**Tel/fax: (017) 227-78-92. E-mail: niva@user.unibel.by Http://members.xoom.com/Nasa_Niva.**
© **НАША НІВА.** Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. Наклад 3764. 6 палос фарматам А2. Нумар падпісаны ў друк 0:42, 29.05.2000. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 2654. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны.
Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г. Менск, пр. газэты «Известия», д. 8, кв. 173.
Дыспэтчарска-рэдакцыйны адрас: Менск, Бабруйская, 19/36